• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

19 лютага 1998 г. чацвер, № 37-36 (23388-23389)

# ЗВЯЗДА



## ГРАФІК РАБОЧЫХ СУСТРЭЧ ПРЭЗІДЭНТА Ў НАГАНА НАСЫЧАНЫ

Знаходжанне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі ў г.Нагана аказалася апраўданым як з палітычнага, так і спартыўнага пункту гледжання. Трэба адзначыць добразычлівую атмасферу, што склалася вакол знаходжання кіраўніка беларускай дзяржавы на Алімпіядзе, якая ў многім была створана дзякуючы паспяховым выступленням беларускіх спартсменаў на Алімпійскіх гульнях. У японскай прэсе з'яўляюцца матэрыялы пра беларускіх спартсменаў, якія маюць дружалюбны характар. Асабліва адзначаецца поспех хакейнай зборнай, якая, трапіўшы ў фінальную частку спаборніцтваў, далучылася да «вялікай шасцёркі».

Графік рабочых сустрэч і кантактаў прэзідэнта даволі насычаны і ўключае як прагляд важнейшых спартыўных мерапрыемстваў з удзелам нашай зборнай, так і сустрэчы з вядомымі палітычнымі і грамадскімі дзеячамі свету. Адбылася сустрэча і гутарка А.Р.Лукашэнкі з былым прэм'ер-міністрам, міністрам замежных спраў і міністрам фінансаў Японіі Ц.Хата, якая была ініцыравана гэтым вядомым палітыкам. Адбыліся таксама гутаркі кіраўніка беларускай дзяржавы з кіраўнікамі Нацыянальных алімпійскіх камітэтаў розных краін, вядучымі спартсменамі свету, прычым асноўная ўвага ўдзялялася сустрэчам з прадстаўнікамі Расіі і іншых краін СНД. У час такіх сустрэч спартсменамі неаднаразова выказваліся словы ўдзячнасці Прэзідэнту Беларусі за тую ўвагу і падтрымку, якую ён аказвае спорту на дзяржаўным узроўні.

Запланавана нефармальная сустрэча «ля каміна» з удзелам вядомых прадстаўнікоў журналісцкага корпуса Расіі, Украіны, Казахстана, Узбекістана, Малдовы і іншых краін СНД.

Плануецца правесці хакейны матч ветэранаў гэтага віду спорту, якія прадстаўляюць Расійскую Федэрацыю і Рэспубліку Беларусь. Дасягнута дамоўленасць аднosна арганізацыі прыезду ў Беларусь вядомых прадстаўнікоў і ветэранаў расійскага спорту па аналагу з візітам у Мінск прадстаўнікоў літаратуры і культуры Расіі, які праходзіў у снежні 1997 года.

**БЕЛТА.**

## «ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ» ШКОЛА




• *пяцікласніца Насця Жыдовіч вывучае замежную мову ў толькі што набытым лінгафонным кабінеце*

**Паўстагоддзя мінула з таго дня, калі ў Сівіцах аднавяскоўцы пабудавалі невялічкую школку. Сцены яе складалі з бярвення, уцалелага ад пажару зруба старога млына. Усе астатнія хаты вёскі ў час блакады спалілі фашысты. Паўстагоддзя служыў гэты будынак, і вось нарэшце на яго дзверы павесілі замок — непадалёку засвяціліся вокны новай школы.**

(Заканчэнне на 10-й стар.)

• *пераяздджаць у новую школу аказалася проста: уся мэбля, абсталяванне класаў і кабінетаў былі дастаўлены прама з заводаў, засталося перанесці толькі дробныя рэчы*

## АБМЕРКАВАЛІ ПРАБЛЕМЫ МЯСЦОВАЙ УЛАДЫ

Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Павел Шыпук і кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч правялі 17 лютага рабочую сустрэчу са старшынямі абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў.

У ходзе сустрэчы былі абмеркаваны актуальныя пытанні жыццядзейнасці мясцовага самакіравання — праблемы ўзаемадзеяння выканаўчых і прадстаўнічых органаў, раздзяленне іх функцый для дасягнення мэтаў, звязаных з развіццём тэрыторый. Асобнай тэмай абмеркавання сталі першачарговыя меры па ўдасканаленню дэпутацкага ўзаемадзеяння з рэгіёнамі Расіі.

**БЕЛТА.**

## У ВІЦЕБСКУ ЗАТРЫМАНЫ ВЫТВОРЦЫ ЗБРОІ

Начальнік цэха адной з вытворчасцяў у Віцебску ў якасці ўзнагароджання атрымаў драўляны зруб. Дробязь падобны падарунак, зразумела ж, ніяк не назавеш. Як аказалася, начальнік таксама ў даўгу не застаўся. Паводле папярэдніх даных, ён перадаў грамадзяніну грузавую аўтамашыну «ЗІЛ-130». Паслуга за паслугу. Аднак на камерцыйную здзелку міліцыя налажыла сваё «вета» і затрымала начальніка цэха.

Факт атрымання хабару ўстаноўлены і супрацоўнікамі магілёўскай абласной міліцыі. «Птушка», якая трапіла ў сіло супрацоўнікаў МУС, таксама не які-небудзь там радавы грамадзянін — былы старшыня аднаго з калгасаў Быхаўскага раёна. І зноў-такі ён трапіў у поле зроку міліцыі не выпадкова. Справа ў тым, што гэтая асоба падазраецца ў тым, што, злоўжываючы службовым становішчам, за вырашэнне пытання аб набыцці сельгастэхнікі калгасам атрымала хабар у выглядзе аўтамашыны «ВАЗ-21053» коштам 4 тысячы долараў.

Дарэчы, супрацоўнікі віцебскай міліцыі вызначыліся двойчы. Ім удалося затрымаць дваіх мясцовых жыхароў — работніка адной з камерцыйных фірмаў і рабочага адной з будаўнічых арганізацый, якія спрабавалі збыць самаробны пісталет-кулямёт. Як было ўстаноўлена крыху пазней, мясцовыя «калашнікавы» на працягу 1996—1997 гадоў займаліся вырабам і збытам наразной агнястрэльнай зброі.

Зразумела, была ўзбуджана крымінальная справа. А потым у ходзе правядзення аператыўна-следчых дзеянняў у затрыманых былі канфіскаваны самаробны пісталет тыпу «берэта», дэталі і загатоўкі для зборкі яшчэ 5 пісталетаў-кулямётаў калібру 9 мм. Такім чынам, аператыўнікам удалося выйсці на адзін з падпольных цэхаў па вырабу зброі. Па справе вядзецца следства, і хто ведае, якія яшчэ сюрпрызы яно паднясе...

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ПАВЕЛ ШЫПУК — ЧАЛАВЕК ГОДА

Кембрыджскі біяграфічны цэнтр назваў Чалавекам года Старшыню Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Паўла Шыпука. У паведамленні, прысланым з Англіі ў Мінск, гаворыцца, што гэта прэстыжнае званне «прысуджаецца абмежаванай колькасці выдатных асоб, чые дасягненні і кіруючая роля з'яўляюцца прыкладам для ўсяго міжнароднага супольніцтва».

Гэтым рашэннем праўленне вядучага ў свеце цэнтра па выданню біяграфічных даведнікаў адзначыла паспяховую дзейнасць Паўла Шыпука на пасадзе кіраўніка Савета Рэспублікі і яго актыўны ўдзел у развіцці міжнароднага супрацоўніцтва.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

**ПАВЕДАМЛЕННЕ** **аб індэксе спажывецкіх цэн за студзень 1998 года**

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што за студзень 1998 года індэкс спажывецкіх цэн у параўнанні са снежнем 1997 года склаў 103,9 працэнта.



**Сёння «Звязда» праводзіць «прамую лінію» з міністрам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Ігарам Барысавічам ЗЕЛЯНКЕВІЧАМ.**

Тэлефануйце 19 лютага з 11 да 12 гадзін па тэлефонах рэдакцыі: **(8-017) 232-38-21; 232-38-92.**

Папярэдне чакаем вашых званкоў па тэлефоне **(8-017) 268-28-14.**

## Паважаныя чытачы!

**19 лютага гэтага года з 14 да 15 гадзін па тэлефонах 232-38-21, 232-38-92 вы можаце задаць свае пытанні міністру культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандру Уладзіміравічу САСНОЎСКАМУ.**

Тыя, хто хоча загадзя перадаць свае пытанне міністру, тэлефануйце па нумары 268-29-42 у аддзел культуры газеты «Звязда».

## У МІНСКУ ПЛАНУЕЦЦА АДКРЫЦЬ НЕКАЛЬКІ ПУНКТАЎ ПА АБМЕНУ ШПРЫЦАЎ ДЛЯ НАРКАМАНАЎ

**За мінулыя дзесяць гадоў у Мінску было афіцыйна зарэгістравана 180 ВІЧ-інфіцыраваных, з іх 88 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі зарэгістравана ў 1997 годзе.**

У цэлым па рэспубліцы за студзень гэтага года колькасць афіцыйна зарэгістраваных ВІЧ-інфіцыраваных павялічылася на 72 выпадкі. Такім чынам, на пачатак лютага ў Беларусі было зарэгістравана 1859 ВІЧ-інфіцыраваных.

Па прагнозах спецыялістаў, сітуацыя з распаўсюджваннем ВІЧ-інфекцыі ў гэтым годзе ў Беларусі будзе пагаршацца. Як вядома, сёння асноўным ачагом такога хуткага яе распаўсюджвання з'яўляецца асяроддзе шпрыцавых наркаманаў. У сталіцы, па інфармацыі спецыялістаў, на ўліку стаяць 770 наркаманаў, аднак сапраўдная іх колькасць прыкладна ў 10—12 разоў большая. У сувязі з гэтым, як было паведамлена на прэс-канферэнцыі, каб пазбегнуць далейшага пагаршэння сітуацыі з распаўсюджваннем ВІЧ-інфекцыі, у Мінску плануецца адкрыць некалькі пунктаў абмену шпрыцаў для наркаманаў.

Як вядома, два падобныя абменныя пункты ўжо створаны і дзейнічаюць у Светлагорску (Гомельская вобласць), які з'яўляецца ачагом шпрыцавай наркаманіі і распаўсюджвання віруса ВІЧ. У гэтых пунктах наркаманы могуць не толькі абмяняць шпрыц, але і атрымаць неабходную прафілактычную літаратуру і прэзерватывы. Аб эфектыўнасці падобных метадаў прафілактыкі красамоўна гавораць самі лічбы, згодна з якімі, толькі за паўгода ў двух пунктах Светлагорска зарэгістравана больш чым 8 тысяч наведванняў, абменена 18 тысяч шпрыцаў.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

*XVIII зімовыя Алімпійскія гульні*



## ДЗМІТРЫЙ ДАШЧЫНСКІ ПАПАЎНЯЕ «БРОНЗАВЫ ЗАПАС» БЕЛАРУСАЎ

**Учарашні дзень для беларускай каманды можна лічыць удачлівым. У скарбонку зборнай прыбавіўся яшчэ адзін бронзавы медаль, які заваяваў лыжны акрабат Дзмітрый Дашчынскі.**

Як вядома, на папярэдніх спаборніцтвах 20-гадовы мінчанін паказаў абсалютна лепшы вынік. Праўда, айчынныя аматары фрыстайла, памятаючы няўдачу чатырохгадовай даўнасці нашага Аляксея Парфянкова на мінулых Гульнях у Ліхамеры, калі беларус таксама на подступах да фіналу быў лепшым, а потым у фінале заняў апошняе, 12-е месца, цяпер не надта і спадзяваліся на медальны поспех Дашчынскага. Дарэчы, першы фінальны скачок пацвердзіў сумную традыцыю — толькі 5-е месца. Але ж у другой спробе Дзмітрый сабраўся і чыста выканаў складанае сальта з двума піруэтамі.

Яшчэ адзін наш акрабат — Аляксей Грышын у падагульняючым пратаколе аказаўся на 8-м месцы.

Дастойна закончылі сваё выступленне і хакеісты, прайграўшы чвэрцьфінальную сустрэчу з камандай Расіі з лікам 1:4. Дарэчы, гэты лік учора быў самым папулярным. Так згулялі зборныя Канады і Казахстана, а таксама Чэхіі і ЗША. Яшчэ адна сустрэча — Швецыя—Фінляндыя завяршылася перамогай «Трэ Крунур» 2:1.



**Бронзавы скачок Дзмітрыя ДАШЧЫНСКАГА**

У паўфінальных паядынках, якія пройдуць заўтра, 20 лютага, паміж сабой сустрэнуцца: Расія—Фінляндыя, Канада—Чэхія.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 18 ЛЮТАГА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (0-17)** | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 43100 | 43700 | 23600 | 24200 | 7100 | 7300 | 263-6080 |
| Белаграпрамбанк | 42900 | | 23700 | | 7100 | | 228-5716 |
| АКБ «Залаты талер» | 43000 | 44200 | 23700 | 24600 | 6900 | 7300 | 226-7597 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 32320.00 | | 17717.36 | | 5330.00 | | Курс на 19.02.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0570 | | 3.3185 | | 10000 BLR - 1.3859 | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 43730 | 43830 | 23976 | 24036 | 7210 | 7230 | |

**Водаправодны кран з «музыкай», халодныя батарэі ці адсутнасць таго, без чаго, як кажуць, «і ні туды, і ні сюды» — усё гэта настрою жыхароў яўна не паляпшае. Невырашальнасць такіх праблем выклікае ў нас своеасаблівае пачуццё безвыходнасці і неабароненасці. Аб гэтым, дарэчы, сведчыць такі факт, што яшчэ да правядзення «прамой лініі» з міністрам жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барысам Батурам да нас паступіла больш за паўсотні зваротаў чытачоў. Адказаць на пастаўленыя пытанні, а таксама дапамагчы жыхарам у іх вырашэнні «Звязда» і паспрабавала падчас размовы ў «прамым эфіры». Акрамя міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыса Васільевіча БАТУРЫ ўдзел у акцыі прынялі таксама начальнік упраўлення жыллёвай гаспадаркі Мікалай Станіслававіч ЛІПЕНЬ, начальнік упраўлення камунальнай гаспадаркі і экалогіі Станіслаў Мікалаевіч ДЗЕМЯШКЕВІЧ і начальнік аддзела метадалогіі эканамічных працэсаў і цэнаўтварэння Ларыса Аляксандраўна БІРУКОВА.**

# «ПРЫЁМНАЯ ГАДЗІНА» МІНІСТЭРСТВА ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ

***— Хацелася б даведацца аб тым, які зараз устаноўлены парадак утрымання лесвічных пляцовак, прыдамавой тэрыторыі? Ці ёсць правілы, якія дазваляюць ствараць пад вокнамі жылых дамоў часовыя стаянкі машын?***

**Ажэўская А. Р., г. Магілёў.**

— Парадак утрымання лесвічных пляцовак і іншых месцаў агульнага карыстання рэгламентаваны «Правіламі карыстання жылымі памяшканнямі, утрымання жылога дома і прыдамавой тэрыторыі ў Рэспубліцы Беларусь», што былі зацверджаны пастановай урада ад 8 мая 1986 года. У адпаведнасці з гэтым дакументам лесвічныя клеткі і калідор у адна- і двухпавярховых будынках павінны прыбірацца наймальнікамі (уласнікамі кватэр) па графіку, што ўстаноўлены пагадненнем наймальнікаў, зыходзячы з колькасці грамадзян, якія пражываюць у гэтым доме. Такое ж правіла можа быць распаўсюджана і на шматпавярховыя дамы пры перадачы іх на грамадскае захоўванне.

Легкавыя аўтамабілі могуць знаходзіцца ў дварах на спецыяльных стаянках, адлегласць якіх ад жылых дамоў залежыць ад колькасці машын, але не менш як дзесяць метраў.

***— Жыву ў прыватызаванай кватэры. Плачу за асвятленне лесвічных пляцовак, уборку месцаў агульнага карыстання і прыдамавой тэрыторыі, вывазку бытавога смецця і інш. (паслугі ЖБК). Аднак ужо другі год налічваюць плату за санчыстку. Што гэта за графа, за што мы плацім? Цікавіліся ў домакіраўніцтве, але адказу не атрымалі...***

**Іванова І. П., г. Полацк.**

— Плата за вываз і абясшкоджванне цвёрдых бытавых адходаў ажыццяўляецца, пачынаючы з 1 снежня 1996 года, у адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі ад 20 лістапада 1996 года па тарыфах, што зацверджаны аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам.

Зараз памер гэтай платы складае 2400 рублёў з аднаго чалавека ў месяц, прычым грошы ўносяць жыхары як дамоў мясцовых Саветаў так і дамоў ЖБК.

***— Нашыя дамы абагравваюцца з адной кацельні, на адным з іх ёсць лічыльнік. Як рабіць аплату ў тых дамах, дзе няма лічыльнікаў?***

***У кватэрах холадна, таму пачалі рабіць печкі, ці не адаб'ецца гэта на стане будынкаў?***

**Жыхары вул. Савецкая, Пінчука, Камсамольская, г. п. Лоеў.**

—Аплата за цэнтральнае ацяпленне кватэр ажыццяўляецца па адзіных у вобласці стаўках за 1 квадратны метр жылой плошчы (зараз гэтая лічба складае 4022 руб./ кв. м) і не залежыць ад наяўнасці ці адсутнасці на жылым доме прыбора групавога ўліку расходу цяпла. Падобныя прыборы выкарыстоўваюцца толькі для разлікаў паміж пастаўшчыкамі цяпла і жыллёва-эксплуатацыйных устаноў.

Некалькі дзён у снежні 1997 года ў перыяд рэзкага пахаладання з-за недастатковых запасаў паліва жылыя памяшканні недастаткова ацяпляліся, здаралася, што тэмпература ў кватэрах апускалася ніжэй за нарматыўную (у адпаведнасці з будаўнічымі нормамі Рэспублікі Беларусь (СНБ 2.01.93) яна павінна складаць не менш як 18 градусаў). За гэты перыяд з жыхарамі зроблены пераразлік. Зараз цеплазабеспячэнне ў Лоеве ажыццяўляецца нармальна.

Ну і, нарэшце, пытанне пра печкі. Увогуле ў дамах, якія абсталяваны цэнтральным ацяпленнем, рабіць іх забаронена. У асобных выпадках гэта магчыма толькі з дазволу адпаведных устаноў і пры наяўнасці праектнай дакументацыі, што распрацавана ва ўстаноўленым парадку.

***— Да 1994 года прадпрыемства, якому належыць наш інтэрнат, было дзяржаўным, а пасля мы пераўтварыліся ў акцыянернае таварыства «Мона». З гэтай пары, акрамя платы за камунальныя паслугі, з нас бяруць грошы за «іншыя паслугі». У 1997 годзе мы плацілі 236 тысяч рублёў (сям'я з чатырох чалавек). Адміністрацыя нам растлумачыла, што наш інтэрнат стратны і мы абавязаны за свой кошт утрымліваць абслуговы персанал. З пачатку 1998 года плата за «іншыя паслугі» ўзрасла да 132 тысяч рублёў з чалавека. Растлумачце, калі ласка, справядлівасць такіх пабораў.***

**Жыхары інтэрната, г. Полацк.**

— Парадак разлікаў грамадзян за пражыванне ў інтэрнатах вызначаны пастановай урада ад 18 сакавіка 1997 года. У адпаведнасці з гэтым дакументам грамадзяне, што пражываюць у памяшканнях, якія знаходзяцца ў іх адасобленым карыстанні, уносяць плату за жылую плошчу і за камунальныя паслугі (халоднае і гарачае водазабеспячэнне, ацяпленне, каналізацыя, вываз смецця, газ, радыёкропка, электраэнергія) па стаўках кватэрнай платы (тарыфах), устаноўленых для дамоў дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду. Дадатковыя паслугі, што аказваюцца жыхарам (мыццё бялізны, прадастаўленне пасцельных рэчаў, мэблі, гаспадарчага інвентару), аплачваюцца імі дадаткова па цэнах, якія вызначаны прадпрыемствам-уласнікам інтэрната. Плата за «іншыя паслугі» (акрамя названых) заканадаўствам не прадугледжана.

Хацелася б таксама дадаць, што страты інтэрната ад аказання жыллёва-камунальных паслуг па ўстаноўленых тарыфах поўнасцю ці часткова пакрываюцца прадпрыемству са сродкаў мэтавага бюджэтнага фонду на ўтрыманне ведамаснага жылфонду Віцебскага аблвыканкама.

***— Па якому тарыфу павінны аплачвацца паслугі ў кватэры, дзе за апошнія 3 гады тэмпература ў памяшканні рэдка падымалася вышэй за 17 градусаў, дзе нават халодная вада ў кране бывае рэдка?***

***Якім чынам уплывае павышэнне кошту энергарэсурсаў на павышэнне кватплаты?***

**Шурыскаў І. Л., г. Дуброўна.**

— У адпаведнасці з санітарнай нормай, што дзейнічае зараз, тэмпература паветра ў жылым памяшканні павінна быць не ніжэй за 18 градусаў. Калі ж у рэальнасці гэты паказчык меншы (што павінна быць зафіксавана актам у прысутнасці прадстаўніка ЖЭСа), жыхары могуць ставіць перад жыллёва-эксплуатацыйнай службай пытанне аб правядзенні з імі пераразліку за ацяпленне.

Павышэнне тарыфаў на электраэнергію прыводзіць да росту сабекошту абслугоўвання жыллёвага фонду (павялічваюцца затраты на асвятленне лесвічных пляцовак, на эксплуатацыю ліфтоў), што вядзе да павелічэння платы за ўтрыманне і тэхнічную эксплуатацыю жылля.

***— Тэмпература гарачай вады ў нас залежыць ад тэмпературы паветра на дварэ — холадна, дык і вада ідзе нармальная, цяплей — з крана цячэ звычайная, халодная. Чаму ж плату з нас бяруць аднолькавую?***

***А ўвогуле, ці павінна рэгулявацца плата за ацяпленне кватэр у адпаведнасці з рознай тэмпературай паветра на дварэ?***

**Лоўкіс А. Д., г. Рэчыца.**

— У сувязі з адсутнасцю ў жылых будынках горада Рэчыца калектыўных і індывідуальных прыбораў уліку расходу цеплаэнергіі на ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне насельніцтва Гомельскім аблвыканкамам зацверджаны сярэднія тарыфы на гэтыя паслугі (у разліку на ацяпляльны перыяд). Таму плата за ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне ў залежнасці ад тэмпературы паветра на дварэ штомесячна не прадугледжваецца і бярэцца на працягу ацяпляльнага перыяду на аднолькавым узроўні.

У выпадку ж фактычнай эканоміі цеплавой энергіі, што выклікана адпаведным вонкавым тэмпературным рэжымам, у канцы ацяпляльнага перыяду жыллёва-эксплуатацыйныя службы павінны рабіць у дачыненні да жыхароў пераразлік платы за ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне.

У выніку ж поўнага забеспячэння жылфонду Рэчыцы прыборамі калектыўнага і індывідуальнага ўліку цеплавой энергіі разлікі з насельніцтвам за вызначаныя вышэй камунальныя паслугі будуць ажыццяўляцца зыходзячы з фактычнага расходу цеплаэнергіі за адпаведны месяц і тарыфу за 1 Гкал цеплаэнергіі, які дзейнічае на той жа момант.

***— У мяне кватэра ў кааператыўным доме. За тэхнічнае абслугоўванне чатырохпакаёўкі бяруць 62.200 рублёў, двухпакаёўкі — каля 36. Чаму такія лічбы?***

**Сухоцкая, г. Ліда.**

Канкрэтны памер платы за тэхнічнае абслугоўванне жылых памяшканняў у дамах жыллёва-будаўнічых кааператываў, якія не знаходзяцца на эксплуатацыі ЖЭС, вызначаецца праўленнем ЖБК зыходзячы з фактычных затрат на яго абслугоўванне.

***— Атрымліваем зарплату з затрымкамі. Па кватрплаце за гэты час набягаюць працэнты як за пратэрміноўку. Ці не будуць у далейшым улічвацца такія нюансы?***

**Усава Л. М., г. Бабруйск.**

У сувязі з затрымкай у шэрагу выпадкаў заработнай платы пісьмом Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і праўлення АСБ «Беларусбанк» з мая 1996 года адменена пені за пратэрміноўку жыллёва-камунальных плацяжоў з тых жыхароў, якія ўнеслі грошы за карыстанне жылым памяшканнем і за камунальныя паслугі за мінулы месяц да канца наступнага. Атрымліваецца, што ў гэтым выпадку насельніцтва практычна аплачвае паслугі камунальнікаў праз два месяцы пасля іх аказання.

***— Чаму я, жывучы ў вёсцы, павінен плаціць за затраты на ўтрыманне лесвічных пляцовак, ліфтоў і г.д.? У нас жа ўсяго гэтага няма...***

***Знаходзімся на балансе РВА ЖКГ г. п. Радашковічы — абаграваюць амаль ніяк, не хапае нават халоднай пітной вады.***

**Церахаў Л. А., Маладзечанскі раён.**

Плата за тэхнічнае абслугоўванне бярэцца на ўзроўні кватэрнай платы са скідкай 15 працэнтаў, за адсутнасць кожнага віда ўладкавання — 5 працэнтаў. Плата за вываз смецця, бягучы рамонт дома, утрыманне цепласетак на жыхароў падобных дамоў не распаўсюджваецца.



Адказ з месца: «У студзені, сапраўды, у кватэрах было холадна ў сувязі з прарывамі на цеплатрасе. Жыхарам зроблены пераразлік платы за ацяпленне. З 15 лістапада 1997 года водазабеспячэнне дамоў, у сувязі з тым, што яно перайшло ад Радашковіцкага керамічнага завода да мясцовага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі, нармалізавана».

***— Ці дзейнічае сёння льгота для ўдзельнікаў ліквідацыі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС? Раней плаціў 50 працэнтаў кошту камунальных паслуг, дзесьці з мая 1997 года прымушаюць уносіць плату поўнасцю. Растлумачце стан спраў, калі ласка.***

**Іваноў А. П., г. Мінск.**

У адпаведнасці з тлумачэннем Міністэрства юстыцыі ад 3 сакавіка 1997 года № 358, пры вырашэнні пытанняў аб прадастаўленні льгот трэба кіравацца нормамі Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1.09.95 г. № 349. Гэтым дакументам было прыпынена дзеянне часткі другой арт. 19 Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС», дзе прадугледжвалася прадастаўленне льгот па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг асобам, што прымалі ўдзел у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Таму вызначанай катэгорыі грамадзян ільготы зараз не прадастаўляюцца.

***— Чула, што грамадзянам, якім патрэбна сацыяльная абарона, кватэры прадастаўляюцца бясплатна. Ці маю я права на 100-працэнтнае вызваленне ад платы за кватэру (жыву ў звычайным драўляным вясковым доме). Не хапае грошай нават на жыццё. Мне не робяць рамонт, таму я адмаўляюся плаціць за кватэру. Як быць?***

**Казыра Т. У., Чашніцкі раён.**

— 50-працэнтная скідка з аплаты за жылую плошчу прадастаўляецца асобным катэгорыям грамадзян (інваліды і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, інваліды па агульнаму захворванню і інш.) у адпаведнасці з заканадаўствам. Калі ж такіх ільгот няма, то за кватэру плаціць неабходна па поўнай стаўцы. У той жа час жыллёва-эксплуатацыйная ўстанова, якая абслугоўвае дом, павінна выконваць свае абавязкі, прадугледжаныя ў дагаворы на абслугоўванне кватэры. Рамонт ажыццяўляецца ў адпаведнасці з правіламі карыстання жылымі памяшканнямі, утрымання жылога дома і прыдамавой тэрыторыі, а таксама правіламі і нормамі тэхнічнай эксплуатацыі жыллёвага фонда. Згодна з арт. 168 Жыллёвага кодэкса, невыкананне кватэраўласнікам абавязкаў па рамонту жылога памяшкання ў выпадках, што выкліканы тэрміновай неабходнасцю, дае наймальніку жылога памяшкання права зрабіць рамонт і спагнаць з кватэраўласніка кошт рамонту ці залічыць яго замест кватрплаты. Ва ўсіх астатніх выпадках кватрплату і плату за камунальныя паслугі жыхар павінен плаціць своечасова.

***— Я была непаўналетнім вязнем канцлагера. Ці існуюць ільготы пры аплаце за камунальныя паслугі для такой катэгорыі грамадзян?***

**Кузьміч Н. І., г. Слуцк.**

— У адпаведнасці з заканадаўствам, якое дзейнічае зараз, права на прадастаўленне 50-працэнтнай скідкі з аплаты за жылую плошчу і камунальныя паслугі маюць толькі былыя непаўналетнія вязні фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання, якія прызнаны інвалідамі ад агульнага захворвання, працоўнага калецтва і па іншых прычынах (за выключэннем асоб, інваліднасць якіх наступіла ў выніку процiпраўных дзеянняў), незалежна ад узросту, факту працы і сумеснага пражывання з дзецьмі і іншымі сваякамі.

***— Ці маюць права на льготы ў аплаце за камунальныя паслугі 70-гадовыя пенсіянеры?***

***У кватэры — 15 градусаў, батарэі ледзь-ледзь цёплыя. Дапамажыце разабрацца.***

**Васіленка Н. М., г. Барысаў.**

— У адпаведнасці з часткай першай артыкула 21 Закона «Аб ветэранах» на ветэранаў вайны, якія дасягнулі 70-гадовага ўзросту, распаўсюджваюцца льготы, што прадугледжаны існуючым заканадаўствам для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны III групы. Для ветэранаў працы і Узброеных Сіл, якія дасягнулі вышэйпамянёнага ўзросту, ільготы па аплаце жылых памяшканняў і камунальных паслуг не прадугледжаны.

Пасля «прамой лініі» прыйшоў адказ з мясцовага аб'яднання камунальнай гаспадаркі: «Сапраўды, у дадзенай кватэры адбылося паніжэнне тэмпературы да 14 градусаў у сувязі з недаграваннем цепланосьбіта. 11.02.1998 г. адбылося абследаванне ўказанага памяшкання. Тэмпература нармалізавана. За недастатковае ацяпленне жыхарам зрабілі пераразлік у аплаце».

***— Я жыву ў адным пакоі двухпакаёвай кватэры. Ці маю я права прыватызаваць сваё памяшканне?***

**Лапо З. А., Барысаўскі раён.**

— У адпаведнасці з Законам «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» (арт. 5) пакоі у кватэрах, якія займаюць адначасова некалькі наймальнікаў, прывазатызацыі не падлягаюць. Такое права з'яўляецца ў жыхароў толькі ў тым выпадку, калі ёсць магчымасць прыватызаваць кватэру поўнасцю (плошча вызваляецца іншымі наймальнікамі).

Зараз падрыхтаваны праект закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь». Гэтым праектам прадугледжваецца магчымасць прыватызацыі кватэр, якія займаюць некалькі наймальнікаў, аднaчасова ўсімі жыхарамі ў агульную дамавую ўласнасць. Гэты дакумент плануецца разгледзець на веснавой сесіі парламента.

***— Хачу прыватызаваць дом у вёсцы, дзе я зараз жыву. Суседзі, якія працуюць у калгасе, зрабілі гэта даўно, мне ж адмаўляюць, тлумачаць усё тым, што я працую ў школе і не з'яўляюся членам калгаса, у чыёй уласнасці і знаходзяцца будынкі. Але ж мой муж — член калгаса...***

**Касьянава Н. С., Шклоўскі раён.**

***— Якім чынам можна прыватызаваць дом у вёсцы?***

**Рабочыя калгаса «Чырвоны сцяг» Бярозаўскага раёна.**

— Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб увядзенні ў дзеянне Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду» ўстаноўлена, што наймальнікі жылых памяшканняў у дамах калгасаў і іншых прадпрыемстваў і ўстаноў, заснаваных на калектыўных формах уласнасці, могуць прыватызаваць займаемыя імі жылыя памяшканні пры пагадненні з уласнікам і на ўмовах, якія ім вызначаны (у адпаведнасці з рашэннем агульнага сходу калгаснікаў).

***— Ці падлягаюць чэкі «Жыллё» індэксацыі? Я вырашыў прыватызаваць кватэру, і мне іх падлічылі ў прапорцыі 1:2. Справядліва?***

**Кажамякін А. М., Гомельскі раён.**

— У адпаведнасці з арт. 21 Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» грамадзянам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў на 1 студзеня 1992 года і якія атрымліваюць жылыя памяшканні ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду, дамах ЖБК, уведзеных у эксплуатацыю пасля 1 студзеня 1992 года, пры прыватызацыі імі жылля памер жыллёвай квоты падлягае індэксацыі з улікам росту кошту будаўніцтва жылля ў параўнанні з яго коштам на 31 снежня 1991 года і момантам увядзення дома ў эксплуатацыю. Пры гэтым у разлік бярэцца кошт жылога дома на момант уводу яго ў эксплуатацыю без пераацэнкі на момант прыватызацыі.

***— У 1996 годзе падчас моцных снегападаў маю кватэру затапіла (я жыву на апошнім паверсе). Два разы мне спрабавалі рабіць рамонт (клеілі шпалеры на кухні), але ўсё марна — плямы ад вільгаці і цяпер відаць. Звяртаўся ў ЖЭС, ЖРЭА, адміністрацыю раёна, але дасюль не атрымаў канкрэтнага адказу.***

**Субоцін І. М., г. Мінск.**

Гэта пытанне, якое паступіла яшчэ перад «прамой лініяй», каменціруе Галоўнае ўпраўленне жыллёвай гаспадаркі Мінгарвыканкама: «У 1996 годзе Субоцін І. М. сапраўды звяртаўся ў сувязі з тым, што заліло кухню. Па прычыне таго, што на гэтым доме неабходна было замяніць металічны дах у вялікіх аб'ёмах, над яго кватэрай праводзіўся падтрымліваючы рамонт. У летне-асенні перыяд 1997 г. дах быў адрамантаваны, а ў верасні ў кватэры Субоціна быў выкананы рамонт, каб ліквідаваць сляды залівання. Пасля гэтага жыхар ні ў якія ўстановы не звяртаўся. 10 лютага 1998 года пры праверцы тэхнічнага стану даху дэфектаў не выяўлена, слядоў вільгаці на гарышчы над кватэрай — таксама. З Субоціным маецца дамоўленасць аб абследаванні яго кватэры работнікамі ЖЭС і ЖРЭА Маскоўскага раёна».

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

(Заканчэнне будзе.)

**Усё жыццё, па нейкаму містычнаму супадзенню, яго кіраўнікамі былі жанчыны: і калі працаваў інструктарам гаркама, і калі быў намеснікам загадчыка аддзела ЦК, і калі з'яўляўся прарэктарам... Прасоўванне па кар'ернай лесвіцы, па асабістаму прызнанню, часта адбывалася нечакана, і ён заўсёды станавіўся (зноў супадзенне!) самым маладым па ўзросту працаўніком на сваёй пасадзе. Сёння ж рэктару Беларускага Дзяржаўнага Педагагічнага Універсітэта Леаніду ЦІХАНАВУ спаўняецца 60.**

**І нарэшце, супадзенне трэцяе: днямі расійскім тэлебачаннем быў шырока «раскручаны» юбілей яшчэ аднаго Ціханава — акцёра і цёзкі Леаніда Ніканоравіча па прозвішчу. Славуты выканаўца ролі Шчырліца, сам таго не ведаючы, некалі сыграў важную ролю ў лёсе майго суразмоўцы.**

# РЭКТАР ЦІХАНАЎ ВЕРЫЦЬ У АНЁЛА-АХОЎНІКА, ХОДЗІЦЬ У КАЗІНО І НЕ ЛЮБІЦЬ, КАЛІ ЯГО КЛІЧУЦЬ «ШЭФ»

— Мне было 25 гадоў, калі я меў «неасцярожнасць» схлусіць адной дзяўчыне, быццам Вячаслаў Ціханаў — мой сваяк. Тым самым прыцягнуў яе ўвагу да сябе, а ў выніку дзяўчына хутка стала маёй жонкай. Потым яна доўга дакарала мяне (жартам, канечне), што я выкарыстаў «недазволены прыём»... Так акцёр Ціханаў стварыў сям'ю, якая і дагэтуль вельмі шчаслівая (цьфу-цьфу!).

**— А студэнты вас «Шцірліцам» не дражняць?**

— Не. Але, як і ў кожнага выкладчыка, у мяне ёсць свая мянушка — «шэф». Яна, шчыра кажучы, мне не надта падабаецца, бо нясе нейкую афарбоўку перавагі.

**— Вы скончылі Гродзенскі чыгуначны тэхнікум, атрымаўшы спецыяльнасць механіка цягніковай гаспадаркі. На гэтым, тэарэтычна, можна было і спыніцца. Але праз шмат гадоў і перашкод вы займаеце крэсла рэктара адной з вядучых навучальных устаноў краіны. Такі кар'ерны ўзлёт — ад тэхніка-механіка да першай асобы ВНУ — быў здзейснены, вы лічыце, дзякуючы вашым асабістым якасцям, нейкім, прабачце, сувязям або выпадку?**

— Упэўнены: нічога з пералічанага не адыграла такой ролі, як мая ўнутраная ўстаноўка не звяртаць увагі на сур'ёзныя жыццёвыя перашкоды. Быў час, калі не было ў што апрануцца («франціў» у інстытуце ў старэнькай фуфайцы), не хапала ежы і рэгулярнага адпачынку. Але і гэта абсалютныя дробязі ў параўнанні са здарэннем, якое магло паламаць усё жыццё.

Восенню 1957 года (тады я быў студэнтам 2 курса фізіка-матэматычнага аддзялення гродзенскага інстытута) мы паехалі на бульбу. Там адбылася трагедыя — нехта забіў нашага аднакурсніка. Першае, што зрабілі следчыя органы, — арыштавалі пяцярых чалавек, якія жылі ў адным пакоі з нябожчыкам. Для нас пачаліся цяжкія часы: камеры-адзіночкі, бясконцыя допыты.

Шэсць месяцаў я правёў у турме. Там лічыўся нядобранадзейным, бо не цярпеў хамства наглядчыкаў. Потым усё раптам крута змянілася: мяне выпусцілі, нічога не патлумачыўшы — вінаваты ці не — і нават не папрасіўшы прабачэння, аднавілі ў інстытуце.



Жаданне следчых імгненна раскрыць справу прывяло да таго, што некалькі гадоў за кратамі бязвінна правёў наш аднакурснік. Яшчэ адзін быў выключаны з інстытута. Мяне выклікалі, каб даў на яго лжэсведчанні, і калі я адмовіўся, то быў імгненна выключаны з камсамола.

Праз два гады мяне аднавілі. І ўжо зусім нечакана запрасілі працаваць інструктарам у Гродзенскім гаркаме ЛКСМБ. Часам здаецца, што нейкі анёл-ахоўнік засцерагаў мяне на жыццёвым шляху.

**— Калі вы зарабілі свае першыя грошы?**

— Я рос у сям'і без бацькі, дзе маці, маючы дваіх дзяцей, атрымлівала ўсяго 36 рублёў. Таму працаваць пачаў яшчэ юнаком — выпісваў квітанцыі ў гарпаліве. За кожную паперку плацілі нейкую суму. Чым больш выпісваў, тым больш зарабляў. Прыходзілася «дзяжурыць» цэлыя ночы, бо гэтыя 6—10 рублёў у месяц былі для нас надзвычай важнымі.

**— Да прыходу на пасаду рэктара БДПУ вы 10 гадоў працавалі прарэктарам у інстытуце замежных моў. Дзе, на ваш погляд, вы больш самарэалізоўваліся?**

— Канечне ж тут. Калі я прыйшоў у педінстытут, у мяне за плячыма былі ўжо сярэдняя тэхнічная і вышэйшая матэматычная адукацыя, кандыдацкая па педагогіцы і доктарская па гісторыі. Плюс вопыт працы з філолагамі. (Дарэчы, Леанід Ціханаў — першы за ўсю 75-гадовую гісторыю БДПУ рэктар, які мае ступень доктара навук. — **Ц.Х.**) Атрымалася так, што няма ніводнага напрамку, з якім бы я не быў знаёмы. Гэта дало магчымасць прафесійна паўплываць на становішча ў ВНУ.

**— А студэнты таго ж «ін'яза» надта адрозніваюцца ад вашых сённяшніх гадаванцаў?**

— Цяжка параўноўваць, таму што апошнія гады наогул змянілі студэнцтва. Учора была адна генерацыя, сёння — іншая. Гэта ўжо людзі, якія адчуваюць сапраўдную цану ведаў. Мяркую, малады чалавек, які сёння прыходзіць у ВНУ, робіць пэўную стаўку. У мінулыя ж часы пачуццё найвялікшай адказнасці перад сабой у студэнтаў адсутнічала.

**— Давайце вернемся яшчэ раз у вашы студэнцкія гады. Скажыце (толькі шчыра!), вы прагульвалі заняткі?**

— А як жа! Я быў нармальным чацвёрачна-пяцёрачным студэнтам, мог нешта прапусціць. Былі (праўда, рэдка) і няўдачы на экзаменах.

**— Шпаргалкамі карысталіся?**

— З вялікім задавальненнем. Напрыклад, матэматычны аналіз у выкладчыка Рыўкінда мог здаць або студэнт выдатны, або студэнт са «шпорай».

**— Вы чалавек азартны?**

— Вядома! Вось у казіно нядаўна быў, выйграў тры мільёны рублёў.

**— Ваша настольная кніга?**

— Захапляюся Пушкіным. Мабыць, гэта традыцыйна, але я люблю яго па-свойму. Не пахвалюся веданнем многіх вершаў на памяць, але калі на душы моташна, чытаю яго і супакойваюся... З беларусаў захапляюся Караткевічам. Мне пашчасціла ведаць яго асабіста. Я фактычна прысутнічаў пры апошніх днях яго жыцця: мы ляжалі разам у бальніцы, у адной палаце. Быў ён своеасаблівым чалавекам — вельмі баяўся ўколаў, уцякаў ад іх і хаваўся, а калі лавілі, то крычаў, нават мацюкаўся на медсясцёр. Але за гэтай амаль дзіцячай непасрэднасцю хавалася глыбіня, якая была ў ім.

**— Ці ёсць рысы характару, якіх вы не прымаеце ў людзях?**

— Па-першае, цураюся людзей хітрых. Па-другое, гэта можа здацца некаму смешным, я не люблю людзей, якія хутка балабоняць. За хуткай гаворкай прагледжваецца кепскае думанне.

**— А нейкія адмоўныя якасці асабіста ў сябе бачыце?**

— Крыўдлівасць і запальчывасць. Хоць яны і імгненныя, стараюся іх кантраляваць. Ёсць яшчэ адна, «нярэктарская» рыса: нават у свае гады я не магу бачыць, як дзіця або жанчына плачуць, — у мяне адразу нібы хваля да горла падступае. Некаторыя гора-студэнты нават карыстаюцца гэтым — ведаюць, чым «узяць» Ціханава.

**— Як вы думаеце, вам падпарадкоўваюцца, таму што вас баяцца, ці таму, што паважаюць?**

— Таму што я заўсёды памятаю свой лёс і ведаю: агульны поспех складаецца са шчасця кожнага чалавека. Зарплату рэктару мы паднялі толькі пасля таго, як павысілі яе ўсім выкладчыкам.

**— Што вы лічыце сваім самым буйным дасягненнем на рэктарскай пасадзе?**

— Пачатак будаўніцтва шматузроўневай сістэмы педагагічнай адукацыі ў рэспубліцы, з прыцягненнем выкладчыкаў-практыкаў, з сур'ёзнай навуковай «падпіткай».

Калі б мне яшчэ было дадзена гадоў 20 жыцця, я ўжо дакладна ведаю, што зрабіў бы ва універсітэце. Я павінен стварыць бібліятэку еўрапейскага ўзроўню: з аўтаматызаванымі сховішчамі, камп'ютэрнымі каталогамі. Я мару стварыць магутны навуковы цэнтр для самастойных заняткаў студэнта — каб увесь універсітэт працаваў на адно вучэбнае месца. Неабходна стварыць у БДПУ спачатку навуковую лабараторыю, а потым навукова-даследчыя інстытуты, каб педагагічная адукацыя стала моцным сродкам фарміравання нацыянальнай інтэлігенцыі.

**Гутарыў Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

НА ЗДЫМКУ: **Леанід Ніканоравіч з дачкой Шурачкай.**

# ПРА ШТО ПІШУЦЬ ГРАМАДЗЯНЕ ПРЭЗІДЭНТУ

**Прапановы, заявы і скаргі грамадзян, што паступаюць у Адміністрацыю Прэзідэнта, з'яўляюцца своеасаблівым індыкатарам найбольш тыповых для нашага грамадства праблем. Прычым, як сведчыць даведка, падрыхтаваная Аляксандру Лукашэнку кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаілам Мясніковічам, у мінулым годзе такая пошта значна павялічылася. Да кіраўніка дзяржавы і ў Адміністрацыю Прэзідэнта звярнуліся 37.335 грамадзян — на 4939 больш, чым у 1996 годзе. Звыш 4800 чалавек пабывалі на асабістым прыёме ў рэзідэнцыі прэзідэнта.**

Жыхары рэспублікі праяўляюць цікавасць да пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі, росту яе аўтарытэту на міжнароднай арэне і пашырэння ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з іншымі краінамі. Пры гэтым грамадзяне станоўча ўспрымаюць меры, накіраваныя на сацыяльную падтрымку насельніцтва, умацаванне працоўнай дысцыпліны, законнасці і правапарадку. Многія дзякуюць кіраўніку дзяржавы за тую ўвагу, якую ён удзяляе надзённым патрэбам людзей. «Дзякуючы Вам нарэшце дом для маёй сям'і дабудавалі. Нашай радасці няма канца. Уся мая сям'я шле Вам нізкі зямны паклон. Мы бясконца Вам удзячныя», — гэта радкі з пісьма, адрасаванага Аляксандру Лукашэнку жыхаркай Віцебскага раёна С. Лаберка.

Па-ранейшаму вялікую цікавасць грамадзяне праяўляюць да дзейнасці дзяржаўных органаў, кадравых назначэнняў службовых асоб, востра крытыкуюць недахопы ў іх рабоце. На думку многіх аўтараў, на ўдасканаленні дзейнасці дзяржаўных органаў кіравання, работы з прапановамі, заўвагамі і скаргамі грамадзян станоўча адаб'ецца рэалізацыя падпісанага прэзідэнтам краіны ў снежні мінулага года Указа «Аб рэагаванні службовых асоб на крытычныя выступленні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі», а таксама красавіцкага распараджэння кіраўніка дзяржавы «Аб мерах па паляпшэнню работы са зваротамі грамадзян».

Вялікая колькасць зваротаў датычыць таксама пытанняў працы і сацыяльнай абароны (17 працэнтаў). Грамадзяне скардзяцца на несвоечасовую выплату прадпрыемствамі і арганізацыямі заработнай платы, дзяржаўных дапамог, кампенсацый за страту працаздольнасці, за парушэнне працоўнага заканадаўства. Нярэдкія скаргі, якія датычаць розных парушэнняў працоўнага заканадаўства, нездавальняючага эканамічнага становішча прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў.

Паступаюць трывожныя сігналы аб парушэннях фінансава-гаспадарчай дзейнасці, неналежным выкананні службовымі асобамі сваіх абавязкаў, злоўжываннях. Напрыклад, па выніках разгляду такіх зваротаў былі выяўлены факты безгаспадарчасці, парушэння фінансавай дысцыпліны ў Віцебскім тэрытарыяльным медыцынскім аб'яднанні № 4, адкрытых акцыянерных таварыствах «Мінскі маргарынавы завод» і «Міханавіцкі аграснаб», калгасе «Прамень Кастрычніка» Мазырскага раёна і калгасе «Камінтэрн» Верхнядзвінскага раёна.

Прапановы, крытычныя заўвагі і просьбы, змешчаныя ў зваротах жыхароў нашай краіны, разглядаліся Адміністрацыяй Прэзідэнта, Саветам Міністраў, міністэрствамі і камітэтамі. Многія з іх улічаны пры падрыхтоўцы адпаведных заканадаўчых актаў, у прыватнасці дэкрэтаў і ўказаў прэзідэнта, якія датычаць устанаўлення штомесячнай дапамогі асобным катэгорыям грамадзян, дадатковых мераў па забеспячэнню занятасці насельніцтва, ажыццяўлення валютных аперацый, уручэння медаля Жукава, мер па сацыяльнай падтрымцы работнікаў устаноў адукацыі, якія ўтрымліваюцца за кошт сродкаў бюджэту, і іншых.

Не зніжаецца колькасць зваротаў па пытаннях жылля (20,7 працэнта). Грамадзяне паведамляюць аб аслабленні кантролю з боку мясцовых выканкамаў за выкарыстаннем і захаванасцю жылога фонду, непрыняцці мераў па падтрыманню належнага санітарна-тэхнічнага стану дамоў, аб няякасным рамонце. У многіх выпадках толькі пасля неаднаразовых скаргаў адпаведныя службы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі пачынаюць ліквідоўваць недахопы на сваіх падкантрольных аб'ектах. І гэта трывожны сімптом. Напрыклад, каб пачаць выкананне сваіх непасрэдных абавязкаў, указанняў зверху чакалі жыллёвыя рамонтна-эксплуатацыйныя аб'яднанні Ленінскага, Маскоўскага, Партызанскага, Савецкага і Фрунзенскага раёнаў сталіцы, прадпрыемства «Мінскрамбуд», службы камунальнай гаспадаркі горада Бабруйска і Чэрыкаўскага раёна, Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі. Толькі пасля таго, як жыхары Савецкага раёна горада Гомеля звярнуліся да кіраўніка дзяржавы са скаргай на бяздзейнасць мясцовай улады ў вырашэнні пытання, якое датычыць аднаўлення работы лазні, справа зрушыла з мёртвай кропкі.

У даведцы адзначаецца, што пасля падпісанага прэзідэнтам краіны распараджэння «Аб мерах па паляпшэнню работы са зваротамі грамадзян» міністэрствы і іншыя рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы павысілі адказнасць за гэты ўчастак работы, пачалі больш уважліва падыходзіць да разгляду зваротаў грамадзян. Разам з тым шэраг службовых асоб не прымаюць неабходных мераў для аб'ектыўнага разгляду першасных зваротаў. Каб вырашыць свае праблемы, грамадзяне вымушаны звяртацца ў вышэйстаячыя інстанцыі. Зніжаны кантроль за выкананнем прынятых рашэнняў, не заўсёды прыцягваюцца да адказнасці службовыя асобы, па віне якіх былі допушчаны парушэнні. Такія адносіны да абгрунтаваных просьбаў грамадзян, парушэнне тэрмінаў іх разгляду дапускалі канцэрн «Белнафтахім», камітэты па сельскай гаспадарцы і харчаванню Віцебскага і Мінскага аблвыканкамаў, Бярэзінскі, Браслаўскі, Камянецкі, Лельчыцкі, Нараўлянскі, Петрыкаўскі, Чавускі, Чашніцкі райвыканкамы, дзяржаўнае прадпрыемства «Мінгаз».

Са свайго боку Адміністрацыя Прэзідэнта пастаянна ўдзяляе ўвагу пытанням удасканалення работы з прапановамі, заявамі і скаргамі грамадзян, вывучае адпаведную работу на месцах, аказвае метадычную дапамогу дзяржаўным органам кіравання, праводзіць заняткі з кіруючымі кадрамі.

Завяршаючы агляд прэзідэнцкай пошты, хацелася б выдзеліць яшчэ адзін факт, які гаворыць аб многім. Значна ўзрасла колькасць зваротаў, адрасаваных Аляксандру Лукашэнку жыхарамі краін блізкага замежжа. Грамадзяне Расіі, Украіны, Казахстана і іншых дзяржаў выказваюцца ў падтрымку Саюза Беларусі і Расіі. Іх пісьмы паказваюць, што, нягледзячы на разгорнутую некаторымі расійскімі сродкамі масавай інфармацыі кампанію па дыскрэдытацыі дзяржаўнай улады ў нашай краіне, людзі атрымліваюць аб'ектыўную інфармацыю аб становішчы спраў у Беларусі, разумеюць і высока ацэньваюць меры па захаванню палітычнай і сацыяльнай стабільнасці ў грамадстве, што прымаюцца кіраўніцтвам рэспублікі. Аб гэтым сведчыць і той факт, што ў параўнанні з 1996 годам больш чым у тры разы павялічылася колькасць зваротаў ад жыхароў былых саюзных рэспублік з просьбай аб пераездзе ў Беларусь на пастаяннае месца жыхарства.

**БЕЛТА.**

***ПЫТАЛЬНІК***

## ШТО РАБІЦЬ З «ЦЯЖКІМ» ПАДЛЕТКАМ?

***У нас праблемы з пятнаццацігадовай дачкой. Не падпарадкоўваецца бацькам, не слухае нашых просьбаў і парадаў. Ёсць пэўныя праблемы і ў школе. Мы лічым, што ёй патрэбна дапамога спецыяліста-псіхолага. Падкажыце, калі ласка, куды б мы маглі разам з ёй звярнуцца?***

**(Прозвішча і адрас названы толькі для рэдакцыі.)**

Шчыра кажучы, гэтае пытанне здзівіла і парадавала адначасова. На жаль, доўгі час у нас лічылася, што дапамога псіхолага патрэбна толькі душэўнахворым людзям. Гэта толькі на Захадзе зварот звычайнага чалавека да такога спецыяліста пры тых ці іншых жыццёвых абставінах ужо даўно лічыцца нармальнай з'явай... А парадавала яно тым, што бацькі не ўскладаюць усю віну за дрэнныя паводзіны дачкі толькі на яе саму, не злуюцца, а спрабуюць разам знайсці выйсце са становішча.

Ва ўпраўленні арганізацыі і каардынацыі выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі на наш запыт паведамілі, што зараз практычна ў кожнай школе сталіцы працуюць спецыялісты-псіхолагі. Калі па тых ці іншых прычынах у школу, дзе вучыцца дачка ці сын, звярнуцца немагчыма (а,напэўна, так і адбылося), трапіць на прыём да псіхолага можна ў суседняй. Як падкрэслілі ў міністэрстве, адмовіць у гэтым вам не маюць права. На крайні выпадак можна звярнуцца па наступнаму адрасу: Дом настаўніка, што на Ульянаўскай, 9, трэці паверх, Цэнтр псіхалагічнай кансультацыі. Разлічаны ён менавіта на аказанне дапамогі падлеткам, зразумела, выслухаюць і дадуць пэўныя парады і бацькам, прычым бясплатная.

## ЛЯМПАВЫ ТЭЛЕВІЗАР ХАЦЯ Б РАМАНТАВАЛІ

***Дзеці падарылі нам тэлевізар замежнай вытворчасці. Трэба ж было такому здарыцца — ён сапсаваўся. Майстар паглядзеў, нешта пакруціў і рамантаваць адмовіўся: «У Японіі зроблены — туды і вязіце». Праз год мы набылі ўжо айчынны «Гарызонт». Ён таксама хутка апынуўся ў майстэрні. Але і беларускі апарат адрамантаваць не могуць. Калі ж айчынныя тэлемайстры стануць адукаванымі?***

**К.Л., Міёрскі раён.**

Па тлумачэнні мы звярнуліся на завод «Гарызонт». Як паведаміў намеснік дырэктара па вытворчасці Мікалай Даўгапалец, зараз прадпрыемства ўшчыльную займаецца аднаўленнем сеткі службы гарантыйнага рамонту па ўсёй рэспубліцы. У прыватнасці, знятыя пытанні ў Мінскай і Гродзенскай абласцях. Неўзабаве дабяруцца і да Віцебшчыны. Адно засмучае: пакуль майстры навучацца не толькі націскаць кнопкі пультаў, але і разбірацца ў іх, гарантыйны тэрмін на апаратуру можа скончыцца. Так што пакупнікам з глыбінкі пакуль давядзецца або везці «блакітны экран» у майстэрню ў вялікі горад, дзе ў тэхніцы разбіраюцца лепш, або рамантаваць пазней ужо за грошы, або ўстрымацца ад пакупкі яшчэ нейкі час.

# Прыватызацыя ў Мінску

Лічбы
Факты
Каментары

## Прыватнаму сектару не патрэбны дзяржаўныя сродкі, якія бяруцца, вядома ж, з кішэні падаткаплацельшчыка



**Найбольшыя вынікі ў рэфармаванні дзяржаўнай уласнасці дасягнуты ў сталіцы краіны — Мінску. Аб вопыце работы, а таксама аб існуючых праблемах у правядзенні гэтага працэсу і расказваецца ў сённяшняй спецыяльнай укладцы «Звязды». На нашу думку, гэта апраўдана — менавіта з беларускай сталіцы фарміруюцца ўсе ўяўленні аб значнасці таго ці іншага пачынання. Наш субяседнік — старшыня Мінскага гарадскога камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Тадэвуш МАЛІНОЎСКІ.**

**Эканамічныя рэформы ў Беларусі набылі незваротны характар. Асноўная састаўляючая гэтага працэсу — прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці, ці, гаворачы іншымі словамі, — прыцягненне новага ўласніка, здольнага ўкласці ў развіццё прадпрыемства не толькі грашовыя сродкі, але і прадпрымальніцкі талент, дзелавую хватку, веды і ўменне арганізаваць сваю справу. Без гэтага беларускай эканоміцы не падняцца з каленяў, на якія яе паставіла гісторыя.**

**Вопыт многіх краін сведчыць, што рэформа дзяржаўнай уласнасці пачынаецца, як правіла, з «малой» прыватызацыі. У Дзяржаўнай праграме прыватызацыі, распрацаванай у адпаведнасці з Законам «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі ў Рэспубліцы Беларусь», малая прыватызацыя вызначаецца як прыватызацыя аб'ектаў камунальнай уласнасці — маёмасці, якая належыць адміністрацыйна-тэрытарыяльным утварэнням. Гаворачы больш спрошчана, малая прыватызацыя — гэта набыццё фізічнымі і юрыдычнымі асобамі ва ўласнасць невялікіх прадпрыемстваў рознічнага гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання насельніцтва, якія належаць дзяржаве. Яна, па—першае, стварае больш эфектыўны спажывецкі сектар, які павышае попыт на гатовую прадукцыю, стварае больш рабочых месцаў і задавальняе патрэбы спажыўцоў. Па-другое, стварае эканамічную атмасферу для актывізацыі людзей.**

**Сусветны вопыт (а прыватызацыя цяпер праходзіць у 90—100 краінах) сведчыць пра тое, што пераўтварэнне дзяржуласнасці ў прыватную дае рэзкі і стабільны рост эканамічнай эфектыўнасці вытворчасці (у шэрагу сфер — абароннай, стратэгічнай і г. д. перавагамі валодае дзяржсектар, але там вырашаюцца задачы не эканамічныя). У нас прыватызацыя ідзе ва ўмовах агульнага крызісу. Гэта не магло не знізіць яе выніковасць, да таго ж ад дэфіцыту інвестыцый пацярпела ўся вытворчасць, у тым ліку і прыватызаваная, хоць і не так заўважна. Тым не менш, паводле агульных статыстычных даных, прыватызаваныя прадпрыемствы працавалі значна лепш, чым аналагічныя без прыватызацыі. На большасці з іх назіраўся рост вытворчасці, а значыць і рост заработнай платы людзей. Аналіз работы прадпрыемстваў, якія выпускаюць прамысловую прадукцыю, сведчыць аб узрастанні долі недзяржаўных прадпрыемстваў у агульным аб'ёме вытворчасці. Прычым асноўная доля прадукцыі недзяржаўных прадпрыемстваў прыпадае на акцыянерныя таварыствы.**

**— Тадэвуш Казіміравіч, малая прыватызацыя вядома жыхарам Мінска не па чутках. Як і належыць сталіцы, тут фарміруецца грамадская думка аб новых перспектыўных напрамках развіцця эканомікі. Метамарфозы, якія адбыліся з былымі дзяржаўнымі магазінамі, кафэ, рэстаранамі пасля продажу іх у рукі новых уласнікаў, відавочныя. Мяркую, кожнаму мінчаніну знаёмы універсамы «Цэнтральны», «Юбілейны». Усе, хто хоць аднойчы пабываў там, адзначаюць асабліва камфортныя ўмовы, створаныя тут для пакупнікоў, шырокі выбар тавараў для людзей самых розных фінансавых магчымасцяў, зручны час работы, хуткасць абслугоўвання і ўважлівасць персаналу. Цяпер ужо мала хто задумваецца над тым, што так тут было не заўсёды і што свой «новы твар» магазіны атрымалі пасля іх прыватызацыі. І такіх аб'ектаў у Мінску ўжо шмат. Здалося, што малая прыватызацыя ў сталіцы набыла шпаркі разбег...**

— Інакш і быць не можа. Наспеў час апрабацыі і зацвярджэння новых формаў уласнасці. Асабліва ў сферы гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання. Першыя крокі, зробленыя намі ў гэтым накірунку яшчэ ў 1991 годзе, паказалі іх эфектыўнасць і перспектыўнасць. Вы ж зразумейце, любы ўласнік кроўна зацікаўлены ў пастаянным даходзе за кошт стабільнай работы прадпрыемства. А ён немагчымы без задавальнення спажывецкага попыту, прапанавання насельніцтву неабходнага узроўню тавараў і паслуг, стварэння добрых умоў працы. Ад усяго гэтага, як вядома, залежыць прыбытак новага ўладальніка. Акрамя гэтага новы ўласнік укладвае дадатковыя ўласныя сродкі ў развіццё свайго прадпрыемства, што дазваляе правесці рэканструкцыю, зрабіць неабходны рамонт, добраўпарадкаваць прылеглую тэрыторыю. Гэта бачна любому, хто быў у тых магазінах, якія вы назвалі. У гэты спіс я ўключыў бы яшчэ магазіны «Палас», «Фантазія-люкс», «Дыянісій», «Дамавы» і шмат іншых.

**— Дарэчы, ужо сёмы год ідуць гэтыя працэсы. Якая іх дынаміка? Якія лічбы могуць іх дакладна ахарактарызаваць?**

— Дынаміка разглядаемых намі працэсаў неаднародная: яны то затухаюць, то зноў пачынаюць развівацца. На сённяшні дзень у Мінску прыватызаваны 71 працэнт аб'ектаў гандлю, амаль 78 працэнтаў — грамадскага харчавання, 48,5 працэнта — бытавога абслугоўвання. Пачата прыватызацыя будаўнічага комплексу. У даходную частку гарадскога бюджэту пазалетась паступіла 140 мільярдаў рублёў, а летась — больш як 200 мільярдаў рублёў. За сем гадоў у працэс раздзяржаўлення і прыватызацыі было ўцягнута каля 20 працэнтаў прадпрыемстваў рэспубліканскага падпарадкавання. Гэта «Атлант», «Мілавіца», «Аліварыя», «Камунарка», «Белвар», «Крыніца» і шмат іншых. Мяркую, што прадукцыя гэтых акцыянерных таварыстваў не толькі на слыху, але і карыстаеццца вялікім попытам у пакупнікоў.

**— Прабачце, але многія нашы чытачы, прачытаўшы гэтыя радкі, зададуцца пытаннямі «А што мне асабіста ад гэтага? Яны — гаспадары і грабуць грошы, а я нічога не маю».**

— Гэта наша трагедыя. З такой свядомасцю, якая існуе ў многіх нашых грамадзян, мы не зможам рухаць нашу эканоміку. Паспрабую патлумачыць вашым чытачам неабходнасць прыватызацыі менавіта для іх. Дык вось, калі ўзяць той жа гандаль, то ад прыватызацыі магазінаў выйграюць усе: горад атрымлівае ў бюджэт значныя сродкі ад продажу аб'ектаў, а затым у выглядзе падаткаў, якія сумленны прыватны ўласнік зацікаўлены плаціць своечасова. Мяркую, што ўсе ведаюць, куды ідуць грошы ад падаткаў: на медыцынскае абслугоўванне, на падтрымку сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва, на развіццё гарадской інфраструктуры, школ і дашкольных устаноў і г. д. Акрамя гэтага, хіба не прыемна заходзіць у абноўленыя магазіны з шырокім асартыментам тавараў, нізкімі цэнамі, высокай культурай абслугоўвання? Нельга не сказаць і аб выгадах для саміх работнікаў такога прадпрыемства — больш высокая заработная плата, якая стымулюе іх зацікаўленасць у выніках сваёй працы.

У мінулым годзе у сталіцы налічвалася 498 прадпрыемстваў рознічнага гандлю, у тым ліку: дзяржаўных прадпрыемстваў — 158, арэндных — 80, недзяржаўных — 226. Пад фірменны гандаль перададзена 34 аб'екты. Цікава, што мінчане ў адносінах да прадуктовых магазінаў аддаюць перавагу менавіта прыватнаму сектару. Важна і тое, што высокая якасць работы ўласнікаў падштурхоўвае і дзяржаўны гандаль: ім бачна, на што арыентавацца, каб задаволіць пакупніка. І хіба дрэнна, што рэканструкцыя прыватных аб'ектаў праводзіцца не за кошт дзяржаўнага бюджэту, а гэта значыць нас, падаткаплацельшчыкаў, а за кошт саміх гэтых уласнікаў?

Практыка паказала, што значна лягчэй кіраваць прыватызаванымі прадпрыемствамі гандлю, чым дзяржаўнымі, якія патрабуюць дадатковых укладанняў. Прыватнаму гандлю, як я ўжо казаў, не патрэбны дзяржаўныя сродкі, якія бяруцца з кішэні падаткаплацельшчыка. Разам з тым, дзяржава за кошт падаткаплацельшчыкаў імкнецца падтрымаць частку дзяржаўнага сектара (у тым ліку і вызваляючы дзяржпрадпрыемствы ад уплаты падаткаў), што не дазваляецца ў адносінах да недзяржаўнага сектара.

**— Тым не менш, многія імкнуцца быць гаспадарамі, а калі не могуць ці не атрымліваецца — пільна сочаць за суседам, лічаць грошы ў чужой кішэні.**

— Наконт гаспадароў. Нам узмоцнена ўдзёўбвалі ў галовы і некаторым, атрымліваецца, такі ўдзяўблі, быццам кожны павінен стаць гаспадаром на сваім рабочым месцы. І гэта падаецца як найбольш разумны спосаб прыватызацыі. Мяркую, не кожны зможа быць гаспадаром. Але кожны павінен мець выбар і для сябе вырашыць: будзе ён гаспадаром, асабліва ў прадпрымальніцкім сэнсе гэтага слова, ці не будзе. Ёсць шмат людзей — граматных, кваліфікаваных, моцных, эрудзіраваных, якія не могуць і не хочуць выступаць у такой ролі. Яны цудоўна выконваюць сваю работу, але, выканаўшы, адкідваюць убок усе вытворчыя клопаты, з задавальненнем займаюцца домам, сям'ёй, іншымі справамі — у поўнай згодзе са сваімі інтарэсамі.

Іншая справа — чалавек з прадпрымальніцкім патэнцыялам. У яго зусім іншы менталітэт: ён шчаслівы, калі аддаецца сваёй справе без астатку, калі бярэ на сябе ўсю адказнасць за яе вынікі, калі мае ўладу над сваім капіталам. Гэта яго спосаб самавыяўлення. Нармальны прыватнік будзе думаць не толькі аб часовым прыбытку, але і працаваць на перспектыву, а значыць клапаціцца пра тых, хто карыстаецца яго паслугамі. Пераўтварыць першы сацыяльна-псіхалагічны тып у другі, ды яшчэ спадзявацца, што ўсё адбудзецца адразу і хутка — гэта самападман.

**— Ці рэгулюемы гэты працэс?**

— Безумоўна. У нас ён таксама, на першы погляд, мае дзяржаўную падтрымку: у Канстытуцыі дакладна запісана, што дзяржава стварае роўныя ўмовы для дзяржаўнага і недзяржаўнага сектара. На практыцы ж атрымліваецца не зусім так: органы кіравання на розных узроўнях, асабліва на ніжэйшым, неадэкватна ставяцца да розных формаў уласнасці — перавагу мае дзяржаўны сектар. Вазьміце той жа гандаль. Зноў вярнуліся фонды на лікёра-гарэлачныя вырабы, мясныя прадукты і г. д. Вы ж самі разумееце, што ў першую чаргу адпускаецца тавар дзяржаўным магазінам, хоць часта там яны становяцца даражэйшымі, чым тая ж прадукцыя ў прыватных гандлёвых кропках.

**— Тадэвуш Казіміравіч, вы толькі за прыватны сектар?**

— Шкада, што вы так зразумелі мяне. Калі хочаце, я — не прыхільнік толькі прыватнага вырашэння усіх праблем. Але мяркую, што на дадзены, пераходны перыяд павінны быць розныя формы ўласнасці — і дзяржаўная, і кааператыўная, і прыватная. Ім павінны быць створаны роўныя ўмовы для дзейнасці. Няхай канкурыруюць. Усё гэта ў выніку станоўча адаб'ецца на кожным з нас.

**— Псіхалогію людзей, сапраўды, цяжка змяніць. Дрэнную службу, на мой погляд, саслужыла і практыка бясплатнай раздачы чэкаў «Маёмасць». Ці я памыляюся?**

— Удзел грамадства ў прыватызацыі праз атрыманне часткі дзяржмаёмасці, а таксама прывілеі і льготы работнікам дадзенага прадпрыемства, лічыцца сёння навукова неабгрунтаваным. Мне таксама думаецца, што калі б актыўна праходзіў працэс прыватызацыі, то бясплатная раздача імянных прыватызацыйных чэкаў была б апраўданая: грашовай масы, мабыць, не хапіла б, каб рэалізаваць гэты працэс. Але мы выбралі паступовы шлях рэфарміравання ўласнасці, таму чэкавая прыватызацыя дзяржаўнай эканомікі не дапамагае, а, наадварот, яшчэ больш узмацняе негатыўныя моманты.

**— Магчыма, вы маеце на ўвазе сітуацыю, калі людзі, уклаўшы ІПЧ «Маёмасць» у нейкае прадпрыемства, чакаюць ужо і вялікіх дывідэндаў...**

— І гэта таксама. Рынак на нас зваліўся знянацку. Людзі аказаліся непадрыхтаванымі. Таму большасць з іх баіцца радыкальных змяненняў. Гэта заснавана і на гістарычных традыцыях: амаль два апошнія пакаленні жывуць ва ўмовах калектыўнай уласнасці. Агульная, гэтак жа як і дармавая ўласнасць, не робіць чалавека гаспадаром. А вось перасварыць людзей можа. Хвароба калектыўнай уласнасці — зарплатызацыя даходаў — «праяданне» большай іх часткі на зарплату, а не інвесціраванне ў развіццё вытворчасці. Дарэчы, гэта вынік якраз таго, што далёка не кожны пры гэтай форме ўласнасці «адразу» становіцца сапраўдным гаспадаром. Што ж адбываецца з вытворчасцю? Запавольваецца яе тэхнічнае абнаўленне. Падаюць аб'ёмы. Калектыў як бы акукліўся, губляе жыватворныя сувязі са знешнім асяроддзем. Натуральна, што ніводны дальнабачны інвестар, айчынны і замежны, не рызыкуе ўкладваць у такую вытворчасць капітал...

Зразумела, калі не калгас уласнік, а хтосьці канкрэтны, то і працаваць прадпрыемства будзе лепш. Сапраўдны гаспадар грошы не «прасадзіць», а будзе думаць, куды іх укласці. Калі толькі дзяліць грошы, не развівацца, займацца толькі прыбыткам для ўласнай кішэні, то карысці ад такой прыватызацыі нямнога.

Вы абсалютна маеце рацыю: некаторыя разумеюць акцыяніраванне як абавязкова высокія дывідэнды з кожнай акцыі. Але чаму б не падумаць пра іншае: больш сродкаў укладваць у развіццё, каб заўтра мець даражэйшую акцыю, якую можна будзе прадаць па больш высокай цане, чым гэтыя ж дывідэнды. Вядома ж, што грошы робяць грошы. Каб людзі зразумелі гэта, трэба праводзіць сярод іх своеасаблівы эканамічны лікбез. Шкада, што ніхто гэтым не займаецца.

Нельга разглядаць прыватызацыю адасоблена ад іншых працэсаў, якія павінны ісці паралельна з рэфарміраваннем уласнасці.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— Павінна мяняцца структура кіравання. Сёння ж многія кадры галіновых падраздзяленняў не прымаюць эканамічных рычагоў, а кіруюць старымі метадамі.

Вядома, пустыя цэхі, адміністрацыйныя будынкі і памяшканні, былыя аб'екты сацкультбыту цяжкім грузам ляжаць на плячах прадпрыемстваў. Такіх аб'ектаў, як заўважылі і чытачы «Звязды», у рэспубліцы шмат. Неаднойчы яны выстаўляліся на рэспубліканскія аўкцыёны, але нічога прадаць не ўдалося — надта высокая іх цана. На думку экспертаў, галоўнай прычынай нізкай актыўнасці ўдзельнікаў аўкцыённых таргоў з'яўляюцца існуючыя сёння падыходы да ацэнкі кошту дзяржаўнай маёмасці. Справа ў тым, што беларуская прыватызацыя ажыццяўляецца на аснове балансавай ацэнкі кошту пабудоў і прадпрыемстваў. Гэта азначае, што колькі было затрачана ў мінулым, столькі прадпрыемства і каштуе. Гэты парадак, мяркую, трэба пераглядаць. Асаблівая недарэчнасць і падманлівасць яго бачыцца ў адносінах да аб'ектаў незавершанага будаўніцтва. Логіка падказвае, што яны павінны каштаваць танней за гатовыя збудаванні. Але ж па балансаваму кошту іх цана вельмі высокая, таму прадаць іх немагчыма. А значыць тыя, хто будаваў, не могуць іх завяршыць, а тыя, хто хацеў бы іх дабудаваць, не могуць іх купіць па рэальнай рыначнай цане. Ці ж гэта па-дзяржаўнаму? На маю думку, некаторыя з такіх недабудаваных аб'ектаў, якія пачалі ўжо развальвацца, выгадней было б нават аддаць за бесцань. Важна, каб гэты аб'ект запрацаваў, прыносячы падаткі дзяржаве, даючы людзям дадатковыя працоўныя месцы.

**— Зноў мы вяртаемся з вамі, Тадэвуш Казіміравіч, да праблемы дзяржаўнага і прыватнага. Інтарэсы абодвух павінны ўзаемаўвязвацца. Але такое ўражанне, што дзяржава, аказваючы моцную сацыяльную дапамогу маламаёмным, робіць не ўсё магчымае, каб стварыць умовы для тых, хто працуе і можа зарабляць на сваё жыццё, пры гэтым адлічваючы пэўныя сумы ў бюджэт на ўтрыманне пенсіянераў і абяздоленых.**

— Зноў жа ўсё ўпіраецца ў псіхалогію. Трэба разумець, што кішэня дзяржавы не бязмерная. Мы імкнуліся будаваць камунізм за кошт дзяржавы. Такога цяпер не атрымаецца. Так, ідэя гэтая добрая, але сёння трэба, сапраўды, ствараць умовы, каб чалавек мог сумленнай працай забяспечыць сваё жыццё і жыццё сваёй сям'і. У такім разе ён менш будзе звяртацца да дзяржавы па сацыяльную дапамогу. Сацыяльная абарона павінна ісці паралельна з павышэннем працоўнай актыўнасці асноўнай часткі насельніцтва краіны. Шлях гэты складаны, але неабходны і апраўданы.



**УНІВЕРСАМ «ЦЭНТРАЛЬНЫ»**
***праспект Скарыны, 23***

**Дата прыватызацыі:** **сакавік 1994 года**
**Спосаб прыватызацыі:** **выкуп арандаванай маёмасці арэндным прыдпрыемствам.**

По праву носіць сваю назву, таму што размешчаны ў самым ажыўленым месцы сталіцы. У гэтым магазіне экзатычная садавіна выдатна суседнічае з простай, прывычнымі і даступнымі па цане таварамі, на якія магазіны арыентуюцца ў першую чаргу. Сочачы за падборам тавараў, адміністрацыя магазіна не забываецца і пра якасць абслугоўвання. Унікальнасць інтэр'еру, вялікі комплекс паслуг, вялікі выбар прадуктаў, зручны час работы забяспечваюць магазіну пастаянны паток пакупнікоў. Да паслуг пакупнікоў — самы папулярны ў горадзе кафетэрый, дзе можна выпіць кубачак чорнай кавы з гарачай французскай выпечкай, а таксама міні-маркет і аддзелы нехарчовых тавараў.

**Не так даўно мой добры знаёмы прама з ног збіўся, шукаючы ў мінскіх крамах выхадны касцюм — набліжалася вяселле дачкі. Справа ў тым, што фігура ў яго, як кажуць, нестандартнай «лепкі», таму яму вельмі цяжка падабраць сабе верхняе адзенне. Так здарылася і на гэты раз. Зайшлі мы неяк з ім у вядомы сталічны магазін «Няміга», але нават і там нічога не змаглі падабраць прыстойнае і таннае. Праўда, звярнулі ўвагу на шырокае кола вытворцаў гатовых вырабаў. Сярод іх чамусьці адзначылі касцюмы фірмы «Андарак», куды, спытаўшы адрас у работнікаў «Нямігі», мы і завіталі к канцу дня. Ужо потым Аляксандр прызнаўся, што не вельмі хацелася яму рабіць заказ у Доме быту, што на Маскоўскай вуліцы сталіцы. Менавіта тут знаходзілася ААТ «Андарак», прадукцыя якога нам спадабалася. Але цяпер, па яго словах, не шкадуе: касцюм атрымаўся проста цудоўны, да таго ж і кошт пашыву невысокі, прынамсі, значна ніжэйшы, чым у іншых атэлье індывідуальнага пашыву. Зразумела ж, абышоўся ён сябру танней, чым у магазіне, які звычайна накручвае значныя гандлёвыя нацэнкі. Трэба было бачыць настрой Алеся на вяселлі: выглядаў ён падцягнутым, стройным, нават хібаў постаці было незаўважна. «Усім сваім знаёмым цяпер проста раю звяртацца ў фірму «Андарак», каб пашыць адзенне», — так падагульніў ён нашу размову. А тут і ў мяне выйшла неспадзяванка дзякуючы нашаму грамадскаму транспарту — піхаючыся ў перапоўнены тралейбус, парваў куртку. Даючыя сябру, звярнуўся ў «Андарак», хоць, шчыра прызнаюся, гадоў, можа, гэтак сем не наведваў Дом быту на Маскоўскай. Пакуль рамантавалі маё адзенне, я вырашыў больш падрабязна даведацца пра гэта адкрытае акцыянернае таварыства.**

Дырэктар ААТ Вера Бравічава, адчувалася, жыве сваёй работай, цудоўна ведае яе. Такіх называюць фанатыкамі. Яна — прафесіянал. Калісьці была мастаком, майстрам, загадчыцай атэлье «Алёнка», а да таго як узначаліць фірму «Андарак», працавала ва ўпраўленні бытавога абслугоўвання Мінгарвыканкама. Пяць гадоў таму Веру Анатольеўну кінулі, што называецца, на прарыў.

Не памылюся, калі скажу, што ў дaперабудовачныя часы Дом быту на Маскоўскай карыстаўся вялікай папулярнасцю. Але пачаўся развал, які не абмінуў і гэтую ўстанову бытавога абслугоўвання. Тое ж швейнае атэлье за гэты час некалькі разоў мяняла форму ўласнасці: уваходзіла ў састаў вытворчага аб'яднання «Прагрэс», прадавалася прыватнай фірме, зноў вярталася ў дзяржаўную ўласнасць.







*Вера БРАВІЧАВА, дырэктар ААТ «Андарак»:*

# «Мы працуем для людзей — у агульным аб'ёме вытворчасці 97 працэнтаў у нас складаюць індывідуальныя заказы»

— Пяць гадоў таму я ўзначаліла гэта атэлье, — расказвае Вера Анатольеўна. — Паверце, плакала ад таго, што ўбачыла. Усё, што можна было, вынеслі, разарвалі, не было чым працаваць. Людзі па чатыры месяцы не атрымлівалі зарплату. Прыйшлося потым нават судзіцца, каб заплацілі людзям за працу, выдалі дапамогу па звальненню. Больш за ўсё шкада людзей, вопытных майстроў, якія пакінулі атэлье.

Цяпер іншая сітуацыя. Швейнае атэлье стала акцыянерным таварыствам. Самі работнікі ўклалі ў яго развіццё свае чэкі «Маёмасць», асабістыя грошы. І справа пайшла. Пра многае сведчыць той факт, што ў агульным аб'ёме вытворчасці заказы насельніцтва тут складаюць 97 працэнтаў. «Андарак» аказвае ўсе швейныя паслугі, а таксама паслугі па рамонту адзення. Не кожнае атэлье адважваецца на такі шырокі комплекс паслуг. Але гэта фірму і выцягвае наверх. Калі яшчэ год таму людзі не былі загружаны ў поўную меру, то цяпер ад кліентаў няма адбою. Тут працуюць па прынцыпу, які прапаведуе Вера Анатольеўна: «Давайце харчавацца маленькай лыжачкай, але пастаянна і разам». Таму, мабыць, тут думаюць пра заказчыка, шукаюць яго, прыцягваюць якасцю прадукцыі і яе невысокім коштам.

Швейнікі разумеюць, што, значна падняўшы цэны, яны згубяць заказчыкаў. А гэта адмоўна адаб'ецца на матэрыяльным становішчы калектыву.

Пазнаёміўшыся з працай швейнікаў, з яе ўмовамі, а таксама даведаўшыся пра іх заробкі (сярэдні заробак у месяц — 2,4 мільёна), я каторы раз пераконваюся, што не так ужо і салодка жывецца гэтым людзям, як звычайна падаецца большасці з нас, а значыць і адкладваецца ў нашай свядомасці. У дадзеным выпадку складаная жыццёвая сітуацыя прымусіла калектыў швейнікаў пайсці на акцыяніраванне. І, як паказаў час, яны не памыліліся.

— Мы прайшлі праз вялікія выпрабаванні, — прызнаецца Вера Анатольеўна. — Шукалі выйсце і, здаецца, знайшлі. Мы зразумелі, што гэта — наша, што ад таго, як мы самі спрацуем, як задаволім патрэбы нашых кліентаў, будзе залежаць і наш дабрабыт. Мы навучыліся лічыць грошы. Таму мы не імкнёмся праесці заробленыя грошы, хоць і яны, вядома, невялікія, а ўкладваем іх у развіццё вытворчасці, у абнаўленне абсталявання. Трэба думаць пра будучае, каб зарабіць кавалак хлеба, які мы не раз ужо гублялі.

Не мог я не запытацца ў Веры Анатольеўны і пра тое, як яна супрацоўнічае з вядомым агенцтвам Сашы Варламава, з яго прыгажунямі.

— Мяркую, што мы знайшліся, — з задавальненнем расказвае яна. — Людзі ў нас творчыя, таму з ахвотай распрацоўваюць новыя мадэлі для гэтага вядомага і паважанага намі агенцтва. Тым самым мы ўдасканальваем сваё майстэрства, маем магчымасць самавыяўлення. Але гэта не значыць, што мы менш увагі ўдзяляем сваёй штодзённай працы. Памыляюцца тыя, хто думае, што мы робіць раскрой тканіны па лякалах. Зусім не. Для кожнага кліента мы выпрацоўваем сваё лякала. Мы гаворым так: «Мы будуем кожнага заказчыка». І паверце, прыемна, калі чалавек, атрымаўшы свой заказ, выказвае ўдзячнасць за працу.

Пакуль мы гутарылі з Верай Анатольеўнай, падрамантавалі і маю куртку. Прызнаюся, нават не заўважыў, дзе была дзірка. З гэтага часу я, як і мой сябар Алесь, буду пастаянным кліентам адкрытага акцыянернага таварыства «Андарак». Мая ранейшая прадузятасць, што, маўляў, калі прыватнае, акцыянернае, дык абавязкова дрэннае, знікла. Да таго ж апошнім часам імкнуўся больш звяртаць увагу на аб'екты гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання і лавіў сябе на думцы, што дзяржаўныя ў многім уступаюць прыватным, акцыянерным. Апошніх вызначалі цудоўны знешні выгляд, больш шырокі асартымент тавараў і паслуг, культура абслугоўвання. А вось цэны ў многіх з іх былі нават і ніжэйшыя. Таму добра, што мінскія ўладныя структуры паступова ідуць па шляху раздзяржаўлення і прыватызацыі аб'ектаў гандлю і бытавога абслугоўвання. Вопыт работы фірмы «Андарак» сведчыць: большасць з іх працуе на чалавека і дзеля чалавека. Тут зразумелі, што трэба ўлічваць не толькі свае інтарэсы, але і бліжняга. І, што важна, робяць гэта ўжо сёння.

## МАЛАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ — ГЭТА...

- **калі дзяржаўны магазін, кафэ, майстэрня, цырульня робяцца прыватнымі**
- калі новы ўладальнік заплаціў за іх дзяржаве ўласныя грошы
- **калі ў прадпрыемства з'яўляецца сапраўдны гаспадар**
- калі новы ўласнік наводзіць парадак і дае людзям работу
- **калі ён адказвае за работу прадпрыемства ўласнымі сродкамі**
- калі ён не просіць датацыи, а плаціць падаткі
- **калі гандаль, грамадскае харчаванне і бытавое абслугоўванне прыносяць даход гарадскому бюджэту**

- **калі ваш працоўны калектыў купляе прадпрыемства**
- ільготы для працоўнага калектыву пры куплі прадпрыемства і магчымасць укласці чэкі «Маёмасць»
- **захаванне вашай работы пры змене ўласніка**
- паляпшэнне ўмоў вашай працы
- **калі вы працуеце не на дзяржаву, а на гаспадара ці на сябе**
- калі павышэнне вашай зарплаты азначае павышэнне вашай адказнасці
- **прэстыж работы у прыватнай фірме**
- ваша магчымасць павысіць кваліфікацыю

- **рамонт і новая шыльда**
- святочны падарунак пенсіянерам ад магазіна па месцы пражывання
- **калі ў безыменнага гастранома паявілася назва**
- калі забываеш, што такое «Зачынена», «Сандзень», «Перападлік»
- **калі больш няма перапынку на абед**
- калі сервіс і выбар — як на Захадзе, а цэны — як у нас
- **калі ў магазіне чыста і не патыхае чымсьці тухлым**
- калі ў магазіне адкрываюцца новыя аддзелы
- **калі вам здаецца, што за 10 гадоў вашых паходаў у гэту цырульню тут нарэшце штосьці змянілася**
- калі пакупнік заўсёды мае рацыю, таму што ён плаціць грошы
- **калі вам не сорамна, што вы патрывожылі прадаўца**
- калі прадавец вас паважае і хоча вам дапамагчы
- **калі вам баяцца не дагадзіць**
- калі ідзеш па хлеб, а вяртаешся яшчэ і з нечым смачненькім
- **калі ідзеш за нечым смачненькім, а вяртаешся яшчэ і з хлебам**
- калі ўласніку выгадна, каб вы пакінулі свае грошы менавіта ў яго, а не ў канкурэнта
- **калі вам не шкада патрачаных грошай**

# Прыватызацыя і працоўны калектыў: ніхто не хацеў бы вярнуцца ў нядаўняе «дзяржаўнае» мінулае

**Усё часцей на гарадскіх аўкцыёнах малой прыватызацыі прадаюцца працуючыя прадпрыемствы. Таму прадаўцы і цырульнікі, работнікі сталовых і майстэрняў заклапочаныя сваёй будучыняй. Многія ўсур'ёз дапускаюць, што, набыўшы прадпрыемствы ва ўласнасць, новы ўладальнік можа пачаць з масавых звальненняў або наогул зрабіць з былога магазіна рэстаран ці офіс. Ці ёсць падставы для такіх апасенняў? Аб тым, як адчуваюць сябе калектывы прыватызаваных прадпрыемстваў, расказваюць самі работнікі і іх кіраўніцтва.**

*— Мы не звольнілі ніводнага чалавека,* — **расказвае дырэктар мінскага «Палас супермаркета» Аксана Кашкан.** — *Гарадскія ўлады пры прыватызацыі магазіна выставілі ўмовы: захаванне колькасці працуючых з працягам працоўных адносінаў з работнікамі на два гады. Мы абавязаны былі аформіць усіх, хто працаваў да гэтага моманту, у новае гандлёвае прадпрыемства пераводам, што мы і зрабілі. За ўсімі захаваўся аплатны водпуск або, па жаданню, матэрыяльная кампенсацыя. Мы выдалі ўсім даведкі: што такі вось з'яўляецца работнікам «Палас супермаркета», але, паколькі ідзе рамонт, просім прыняць яго на работу. Гэта даведка дапамагла ўсім работнікам, хто хацеў, на 4 месяцы ўладкавацца на работу па спецыяльнасці. Пры гэтым у нас яны атрымлівалі сваю сярэднюю зарплату.*

*Да прыватызацыі ў магазіне працавалі 70 чалавек, цяпер — каля 100. 70 працэнтаў новых рабочых месцаў — гэта прадаўцы, а не адміністрацыя. Бухгалтэрыя перайшла ў новае прадпрыемства ў поўным саставе. Засталіся тут працаваць і пенсіянеры. Я лічу іх вельмі працаздольнымі, вельмі сумленнымі і прыстойнымі.*

*Усе члены працоўнага калектыву працягваюць работу на ўмовах працоўнага дагавора з ранейшым наймальнікам. Тавараведы працуюць на кантрактнай аснове. Іх заработак залежыць ад тавараабароту.*

**Рычард Мордас і яго сястра Анжэла Люціч купілі на аўкцыёнах малой прыватызацыі ў Мінску ўжо другі магазін.** У мінулым ваенны інжынер, Рычард беспаспяхова спрабаваў уладкавацца працаваць па спецыяльнасці, калі армію скарачалі, перакройвалі і перабудоўвалі. З адчаю пайшоў у гандаль. Пачаў з маленькага аддзела ў гастраноме. Матаўся па прадпрыемствах. Набіваў шышкі. Але і вопыт набыў. Яго першай пакупкай стаў стратны гастраном у раёне, дзе жывуць былыя камвольшчыкі, якія прастаялі за ткацкім станком каля трыццаці гадоў.

*«У нашым магазіне будзе самая нізкая гандлёвая нацэнка. У ім ніколі не нагрубяць пакупніку, не падсунуць заляжалы тавар. А калі які-небудзь хуткапсавальны прадукт будзе дрэнна прадавацца — уцэнім яго да сабекошту»,* — вырашыў Рычард. Нізкімі цэнамі магазін хутка заваяваў папулярнасць у небагатых жыхароў акругі.

Галоўнае патрабаванне да працуючых у гэтым магазіне — сумленнасць і прыстойнасць. Камусьці з ранейшых работнікаў гэта аказалася не па душы. Нядобрасумленныя звольніліся па ўласнаму жаданню. Наогул жа новы ўласнік не можа звольніць работніка ў парушэнне працоўнага заканадаўства. А тым, хто сапраўды хоча працаваць, прыватызацыя дае для гэтага ўсе магчымасці.

Валянціна Іосіфаўна Татарыновіч, гардэробшчыца **мінскага універсама «Парк»,** ганарыцца тым, як змяніўся гэты магазін:

*— Раней сумку не было дзе пакінуць, а цяпер — калі ласка, гардэроб ёсць. Працаваць мне тут падабаецца. Людзі прыходзяць — здзіўляюцца: быў быццам бы маленькі, а цяпер такі светлы, што здаецца большым. Абеды нам гарачыя зрабілі, гатуюць прама тут. І працуе магазін цяпер да 11 гадзін вечара.*

*— Працуецца быццам бы нармальна, можа нават і лепш,* — лічыць Марыя Іванаўна Палішчук, прадавец-касір 2-й катэгорыі.

*— У зарплаце не прайгралі, наадварот: я атрымлівала 800 тысяч, цяпер — 2 мільёны 200 тысяч. Пакуль магазін быў на рамонце, мы не працавалі, але нам плацілі па 500 тысяч. Дырэктар у нас новы, адносіны з ім добрыя. Звальняцца нікуды не збіраюся, усё пакуль задавальняе.*

*— Раней у нас не было гаспадара і нікому не было да нас ніякай справы,* — гаворыць **загадчыца цырульні ў Паўднёвым мікрараёне Баранавіч Л. Зялінская.** — *Я 32 гады адпрацавала ў камбінаце бытавога абслугоўвання і з поўным правам заяўляю: гэта неба і зямля. Цырульні павінны быць у прыватніка. У кожнага майстра асабістая машынка, фен, бялізна закуплена. Кожны з нас ведае, што яму трэба для нармальнай работы.*

Для тых, хто не хоча сядзець і чакаць новага гаспадара, ёсць і іншы шлях — самому стаць уласнікам. Прыняць такое рашэнне нялёгка. І ўсё ж ёсць сэнс паспрабаваць. Гэта лепш, чым баяцца і чакаць, калі гэта зробіць іншы. Тым больш, што гарадскія ўлады як арганізатары аўкцыёнаў падтрымліваюць волю працоўнага калектыву ў яго рашэнні стаць уласнікам, прадастаўляючы яму пэўныя льготы. Галоўнае тут — усім калектывам прыняць рашэнне аб удзеле ў таргах. У выпадку перамогі працоўны калектыў мае шэраг ільгот, якія датычаць парадку і тэрмінаў аплаты пакупкі. Ён атрымлівае 20-працэнтную скідку ў той частцы аплаты, якая ўносіцца грашыма (палову пачатковага кошту, як правіла, можна ўнесці прыватызацыйнымі чэкамі «Маёмасць»), а таксама магчымай растэрміноўкі плацяжу тэрмінам на адзін год з улікам афіцыйна аб'яўленага ўзроўню інфляцыі.

**Аршанскай цырульні «Святлана»** рэклама не патрэбна. Яе ведаюць, без перабольшання, усе жанчыны ў горадзе. І не толькі таму, што знаходзіцца яна ў самым цэнтры. Прыцягваюць наведвальнікаў нізкія цэны і высокая якасць абслугоўвання.

Загадчыца цырульні Лідзія Андрэеўна Кмітава не скрывае, што два гады, якія прайшлі пасля прыватызацыі, былі вельмі цяжкімі. Купіўшы прадпрыемства на аўкцыёне па даволі высокай цане, узяўшы вялікі крэдыт у банку, тут змаглі наладзіць работу так, што ні адзін плацеж банку і аддзелу прыватызацыі не быў пратэрмінаваны. А па выніках пазамінулагодняга года ўпершыню спрацавалі з прыбыткам, частку якога накіравалі на рамонт цырульні.

Калі вы пагутарыце з работнікамі іншых прыватных цырульняў Оршы — «Шык» і «Фея», то стане зразумела, што ніхто з іх не хацеў бы вярнуцца ў нядаўняе «дзяржаўнае» мінулае, калі ім самім даводзілася купляць мыйныя сродкі, хімікаты, фарбавальнікі і іншую касметыку. І майстры гэтых прадпрыемстваў, і кліенты перакананыя, што сфера абслугоўвання толькі выйграе ад перадачы ў прыватныя рукі.

Па ўсёй Беларусі ўжо прыватызавана на аўкцыёнах каля 700 прадпрыемстваў. З іх колькасці больш за 30 прадпрыемстваў куплены працоўнымі калектывамі. Гэта азначае, што сотні людзей у Брэсце, Гродне, Оршы і іншых гарадах, стоячы ля прылаўка або за стойкай бара, працуючы ў кафэ, цырульні або майстэрні, рэальна валодаюць сваім прадпрыемствам і працуюць на сябе.

Яны не могуць працаваць дрэнна. Не маюць права, таму што ўклалі свае сродкі і прымнажаюць укладзенае.

Матэрыялы спецвыпуску падрыхтаваў Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.

ЗВЯЗДА
19 лютага 1998 г.



# «АЖЫЎЛЕННЕ ВЫТВОРЧАСЦІ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ КАНЦЭРНА АДБЫЛОСЯ.

# СЁЛЕТА МЫ ПАВІННЫ ПЕРАЙСЦІ ДА ЎСТОЙЛІВАГА РОСТУ ПАКАЗЧЫКАЎ»

**Амаль год таму — 27 лютага 1997-га — на старонках «Звязды» быў апублікаваны артыкул прэзідэнта канцэрна «Белмясцпрам» Міхаіла Поуха. Публікацыя мела даволі характэрную і канкрэтную назву: «1997 год стане пачаткам устойлівага эканамічнага росту». У ёй кіраўнік аднаго з буйнейшых у Рэспубліцы Беларусь ведамстваў не толькі трымаў справаздачу аб справах і набытках канцэрна, але і разважаў над праблемамі і нявырашанымі пытаннямі, выказваў прагноз — абгрунтаваны і рэальны — адносна перспектыў і будучых здзяйсненняў падначаленых «Белмясцпраму» прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Мінуў год. Што зроблена за гэты перыяд у канцэрне канкрэтна? На якія працоўныя рубяжы выйшаў «Белмясцпрам»? Што, у прыватнасці, найбольш хвалюе і непакоіць прэзідэнта? Якія планы на год 1998-мы? У чым бачацца кіраўніцтву нявыкарыстаныя рэзервы і магчымасці? І наогул — ці стаў 1997 год годам таго самага пачатку ўстойлівага эканамічнага росту, на які так разлічваў кіраўнік канцэрна?..**

**Слова — Міхаілу Іванавічу ПОУХУ.**



*Прэзідэнт канцэрна «Белмясцпрам» Міхаіл ПОУХ*

— Сфера нашай дзейнасці пастаянна навідавоку. Ды інакш проста быць не можа. Кожны дзень усе мы сустракаемся з вырабамі заводаў, фабрык, іншых прадпрыемстваў і арганізацый сістэмы мясцовай прамысловасці. І калі той ці іншы выраб спадабаецца, прыйдзецца, што называецца, даспадобы, яе вытворцу скажуць «дзякуй», шчыра парадуюцца за яго, маўляў, і ў нас умеюць рабіць...

Такім чынам, наша галіна бярэ свае вытокі ад самога жыцця. Думаю, не памылюся, калі скажу: пераважная большасць кіраўнікоў, спецыялістаў, радавых рабочых выдатна ўсведамляюць яе важнасць і значэнне, а значыцца і сваю адказнасць за справы на вытворчасці. І гэта найпершы залог таго, што справы ў штодзённай дзейнасці і надалей будуць паляпшацца. Абавязкова паляпшацца!

Вынікі работы за мінулы год і першыя паўтара месяца гэтага года засведчылі: мы — на правільным шляху! Наогул, як і чакалася, 1997-мы стаў годам пачатку ўстойлівага эканамічнага росту.

Сёння ўсё радзей і радзей пачуеш ад кіраўнікоў і радавых работнікаў нашай сферы скаргі на цяжкасці, што напаткалі эканоміку Рэспублікі Беларусь у цэлым, нейкія іншыя аб'ектыўныя і суб'ектыўныя цяжкасці і перашкоды. Людзі зразумелі галоўнае: не адчайвацца і апускаць рукі трэба, а — працаваць! Шчыра і самааддана, на кожным рабочым месцы. І тады паступова, крок за крокам, прыступка за прыступкай — і мы разам выйдзем на новыя абсягі, зажывём па-людску, годна і прыстойна.

Прадпрыемствы і арганізацыі канцэрна «Белмясцпрам» за 1997 год вырабілі прадукцыі на суму 2951,8 мільярда рублёў, а тавараў народнага спажывання — на 2398,3 мільярда. Дасягнуты самы высокі тэмп росту тавярнай прадукцыі па рэспубліцы. Выпуск яе ў параўнанні з папярэднім, 1996 годам павялічаны на 35 працэнтаў. На прадпрыемствах рэспубліканскай формы ўласнасці гэты паказчык склаў 38,6 працэнта, у вытворча-гандлёвым канцэрне «Брэстмясцпрам» — 52,7, дзяржаўным вытворчым канцэрне «Гроднамясцпрам» — 29,6, вытворча-гандлёвай фірме «Гомельмясцпрам» — 26,6, абласным вытворчым упраўленні «Віцмясцпрам» — 18,3 працэнта.

57 працэнтаў прадпрыемстваў рэспубліканскага падпарадкавання не толькі не знізілі, але і павялічылі аб'ём вытворчасці ў параўнанні з 1990 годам. Найбольш стабільна працавалі летась адкрытае акцыянернае таварыства «Волмет» з Ваўкавыска (дырэктар Я. А. Багатыроў), Полацкі завод сельскагаспадарчага абсталявання (дырэктар Л. Н. Горбач), слуцкі завод «Эмальпосуд» (дырэктар А. А. Андрушчанка), арэнднае прадпрыемства «Мінскі доследна-эксперыментальны завод імя Гастэлы» (дырэктар А. А. Коўрык), адкрытыя акцыянерныя таварыствы «Барысаўбытхім» і «Беларуская мастацкая кераміка» (дырэктары Г. Д.Галімскі і Н. А. Кладаў), Смілавіцкая лямцавая фабрыка (дырэктар В. Н. Сабан).

Сярод прадпрыемстваў абласнога падпарадкавання хацелася б адзначыць калектывы Даманаўскага камбіната будаўнічых матэрыялаў (дырэктар С. І. Курленя), Пружанскі КБМ (дырэктар М. Е. Краўчук), Бешанковіцкую шорную фабрыку (дырэктар М. Н. Макавецкі), Чашніцкі камбінат прамысловых тавараў (дырэктар Т. Г. Гаркавая), Ваўкавыскае вытворчае аб'яднанне будаўнічых матэрыялаў (дырэктар Е. В. Чахнік), Калінкавіцкі завод бытавой хіміі (дырэктар П. А. Калянчук), мазырскую гандлёвую фірму «Славянка» (дырэктар Л. Я. Круцько).

Перавыкананы ўсе асноўныя мэтавыя паказчыкі (акрамя імпарту), устаноўленыя канцэрну пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

| | Прагноз (прац.) | Факт (прац.) |
|---|---|---|
| Прадукцыя прамысловасці | 106,0 | 138,6 |
| Вытворчасць тавараў народнага спажывання | 105,0 | 136,6 |
| Рост прадукцыйнасці працы | 107,0 | 144,5 |
| Прыбытак ад рэалізацыі ў дзеючых цэнах | 140,0 | 222,7 |
| Аб'ём экспарту | 107,0 | 111,0 |
| Аб'ём імпарту | 98,0 | 177,6 |
| Асноўны паказчык энергазберажэння | 10,0 | 20,0 |

Дасягнуты апераджальны рост вытворчасці працы над ростам аб'ёмаў вытворчасці. Адначасова са скарачэннем неэфектыўнай вытворчасці праведзена пэўная работа па стварэнню новых рабочых месцаў, што забяспечвае рэнтабельную дзейнасць прадпрыемстваў. На працягу 1997 года іх створана 175.

Усе прадпрыемствы працавалі і працуюць абсалютна ў аднолькавых эканамічных умовах. І, тым не менш, паказчыкі дзейнасці асобных з іх рэзка процілеглыя. На вялікі жаль, так і не здолелі наладзіць вытворча-эканамічную дзейнасць, палепшыць фінансавае становішча падначаленых ім калектываў дырэктар гомельскага завода «Эмальпосуд» М. М. Дзембас, дырэктар арэнднага прадпрыемства «Гомельскі завод пластмасавых вырабаў» Н. М. Фядосік, кіраўнік віцебскай фабрыкі мастацкіх вырабаў «Купава» С. Я. Крупянькоў, дырэктар Клімавіцкага завода металічных вырабаў А. А. Дварэцкі. Такая іх бяздзейнасць, дарэчы, назіраецца ўжо не першы год.

У сярэдзіне мінулага года на пасяджэнні савета канцэрна мы прааналізавалі работу гомельскага завода «Эмальпосуд». Шмат крытычных слоў было сказана ў адрас Мікалая Міхайлавіча Дзембаса. Аднак ён і да гэтага часу не зрабіў канкрэтных высноў са сваёй дзейнасці, далей слоў справа так і не пайшла. Па колькасці працуючых завод — адзін з буйнейшых у канцэрне. Але, як і раней, ён мае літаральна ўсе нездавальняючыя паказчыкі. Пастаянна растуць дэбіторская і крэдыторская запазычанасці, несвоечасова выплачваецца заработная плата і г. д. І гэта пры тым, што прадпрыемству пастаянна аказваюць дапамогу ўрад рэспублікі, аблвыканкам, кіраўніцтва канцэрна «Белмясцпрам». У самы бліжэйшы час мы зноў вернемся да аналізу работы гомельскіх вытворцаў посуду.

У дрэваапрацоўчай галіне самым буйным прадпрыемствам і па колькасці працуючых (звыш 1200 чалавек), і па аб'ёмах вытворчасці (звыш 10 мільярдаў рублёў у месяц) з'яўляецца адкрытае акцыянернае таварыства «Музінструмент-Барысаў», якое ўзначальвае М. П. Лацянкоў. На яго долю, дарэчы, прыпадае звыш 30 працэнтаў аб'ёму выпуску прадукцыі ў гэтай галіне. Летась, нягледзячы на ранейшае падзенне пакупніцкага попыту на асноўную прадукцыю прадпрыемства — піяніна, ААТ забяспечыла выкананне даведзеных канцэрнам заданняў. За год прадпрыемства атрымала прыбытку звыш 7 мільярдаў рублёў. Тут пастаянна думаюць і аб перспектыве, заўтрашнім дні. Адначасова з асноўнай прадукцыяй «Музінструмент-Барысаў» наладзіў выпуск мэблі, якая, дарэчы, літаральна адразу ж пачала карыстацца сярод спажыўцоў вялікім попытам. Сёлета яе вытворчасць тут маюць намер павялічыць у чатыры разы і давесці да 36 мільярдаў рублёў.

А вось Маладзечанская фабрыка музычных інструментаў па сутнасці ў абсалютна такой жа сітуацыі (падзенне попыту на прадукцыю) летась спрацавала са стратамі ад рэалізацыі — 848 мільёнаў рублёў пры балансавым прыбытку 2506 мільёнаў рублёў. Тут відавочныя пралікі кіраўніцтва ў планаванні і пастаўках прадукцыі. У час абароны плана вытворчасці на сёлетні год кіраўнікам указана на неабходнасць прыняцця тэрміновых мераў па паляпшэнню працы, павелічэнню аб'ёму выпуску прадукцыі, зніжэнню матэрыяльных выдаткаў, паляпшэнню якасці вырабаў.

Нядрэнных паказчыкаў ў галіне дрэваапрацоўкі дабіліся летась Шклоўская і Лідская мэблевыя фабрыкі (дырэктары Н. А. Грыбок і Г. І. Федаровіч), Кіраўскі дрэваапрацоўчы камбінат (дырэктар А. С. Глаз), Пастаўскі завод вучэбнага абсталявання (дырэктар Р. В. Зямчонак), Мазырскае вытворча-мэблевае аб'яднанне (дырэктар Г. К. Васілец). На жаль, не на поўную сілу, са стратамі працуюць пакуль што Лунінецкі дрэваапрацоўчы камбінат (дырэктар В. І. Сіроцкі), Столінская фабрыка кухоннай мэблі (дырэктар В. Ф. Дзімітрычкаў).

Кадры, як вядома, вырашаюць усё. І мы ў гэтым пераканаліся.

З прызначэннем на пасаду дырэктара Івянецкага завода мастацкай керамікі П. Ф. Страчынскага кіраўніцтва канцэрна звязвае надзеі на выхад прадпрыемства з крызісу, у які яно трапіла. Дарэчы, Пётр Францавіч ужо працаваў кіраўніком гэтага калектыву больш як дзесяць гадоў таму. І цяпер літаральна за некалькі месяцаў работы пад яго ным кіраўніцтвам завод павялічыў аб'ёмы выпуску прадукцыі. Не менш важна і тое, што дырэктар бачыць перспектывы росту і развіцця вытворчасці. Акажа яму сваю падтрымку і канцэрн «Белмясцпрам», і Мінскі аблвыканкам.

У хімічнай галіне адным з галоўных прадпрыемстваў па значнасці і аб'ёмах вытворчасці з'яўляецца баранавіцкая вытворчая фірма «Бархім». Аднак аб'ёмы выпуску прадукцыі на 15—16 мільярдаў рублёў штомесяц сёння задаволіць нікога не могуць. Дырэктару фірмы В. С. Пучынцу не трэба забываць, што незавершанае будаўніцтва цэха па вытворчасці грануляваных мыйных сродкаў цяжкім грузам ляжыць і на самім прадпрыемстве, і на канцэрне ў цэлым. Час ужо да канца вызначацца і ў адносінах з сумесным прадпрыемствам «Белдэнт», заснавальнікам якога з'яўляецца «Бархім».

На арэндным прадпрыемстве «Гомельскі завод пластмасавых вырабаў» (дырэктар М. М. Фядосік) фінансавае становішча яшчэ горшае. Прадпрыемства пастаянна не выконвае даведзеныя заданні па аб'ёмах вытворчасці. З месяца ў месяц тут несвоечасова выплачваецца заработная плата, не праводзяцца своечасова разлікі за энерганосьбіты. Да цяперашняга часу на заводзе не вырашана пытанне аб вяртанні дывідэндаў валютнага крэдыту.

Аналіз работы прадпрыемстваў за мінулы год паказаў, што паляпшэнне іх фінансавага становішча, адэкватнага росту аб'ёмаў вытворчасці не адбылося. І ў многім гэтаму перашкодзілі наяўныя даўгі мінулых гадоў. Па-ранейшаму складанай праблемай застаецца праблема ўзаемаразлікаў за пастаўленую прадукцыю, пытанне бартэрных аперацый. Нават тыя прадпрыемствы, што працуюць параўнальна стабільна, ад 10 да 40 працэнтаў прадукцыі пастаўляюць спажыўцу па бартэру. На нашу думку, ва ўмовах адсутнасці канвертацыі валюты бартэр у разумных межах можа і павінен мець права на існаванне. Галоўны ж падыход у такой сітуацыі — гэта забеспячэнне своечасовай выплаты заработнай платы, плацяжоў у бюджэт, за энергарэсурсы. Тым больш незразумелая пазіцыя асобных кіраўнікоў, калі пры вялікіх даўгах бартэрныя аперацыі яны даводзяць да 70—90 працэнтаў ад агульных аб'ёмаў паставак. Гэта датычыцца гомельскага завода «Эмальпосуд», арэнднага прадпрыемства «Гомельскі завод пластмасавых вырабаў», адкрытых акцыянерных таварыстваў «Рудзенск», «Музінструмент-Барысаў», дзяржаўнага прадпрыемства «Трыор», пінскай вытворча-тэхнічнай фірмы «Прамень», віцебскага вытворчага аб'яднання «Хімпласт».

За 1997 год мы атрымалі 348,3 мільярда рублёў балансавага прыбытку, што амаль на чвэрць больш, чым за папярэдні год. Тым не менш, 12 прадпрыемстваў спрацавалі са стратамі. Гэта чатыры калектывы прамога падпарадкавання: усё той жа гомельскі «Эмальпосуд», Івянецкі ЗМК, Быхаўскі КПТ, дзяржаўнае прадпрыемства «БелТИС». Чатыры стратныя прадпрыемствы ёсць у абласным вытворчым упраўленні «Віцмясцпрам», па два — у дзяржаўным вытворчым канцэрне «Гроднамясцпрам» і вытворча-гандлёвым канцэрне «Брэстмясцпрам».

Па стану на 1 студзеня 1998 года крэдыторская запазычанасць склала 408,9 мільярда рублёў, дэбіторская — 126,1 мільярда. Удзельная вага пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці ў агульным аб'ёме склала 59,1 працэнта, дэбіторскай — 34,6 працэнта. Каля паловы пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці прыпадае на бюджэт, пазабюджэтныя фонды. Асноўная прычына гэтага становішча — адсутнасць сродкаў, так званых жывых грошай. Звыш 80 працэнтаў прадпрыемстваў маюць адмоўнае сальда паміж гэтымі запазычанасцямі і, такім чынам, жывуць у доўг. Больш чым у шэсць разоў крэдыторская запазычанасць перавышае дэбіторскую на «Эмальпосудзе» (Гомель), Івянецкім заводзе мастацкай керамікі, Быхаўскім КПТ. Мы разумеем, што без кардынальных мераў ліквідаваць гэтую запазычанасць немагчыма, паколькі нязначныя грашовыя паступленні на рахункі прадпрыемстваў толькі часткова пагашаюць плацяжы ў бюджэт. Абаротных сродкаў на развіццё вытворчасці яўна не хапае.

Нягледзячы на прымаемыя меры, накіраваныя на стрымліванне росту цэн, паказчык прагнозу па ўзроўню інфляцыі аказаўся нявыкананым. І хаця сярэднямесячны рост цэн па канцэрну за мінулы год крыху ніжэйшы, чым сярэднерэспубліканскі, нас гэта, вядома ж, не задавальняе. Сярод фактараў росту цэн неабходна адзначыць павелічэнне цэн на пастаўляемыя з Расіі энерганосьбіты, перагляд у бок павелічэння мінімальнай зарплаты, пераацэнка асноўных фондаў і шэраг іншых. Аднак не трэба скідваць з рахунку і мясцовыя пралікі. На шэрагу прадпрыемстваў ёсць значныя рэзервы па зніжэнню росту цэн на прадукцыю. Аб гэтым сведчаць, у прыватнасці, шматлікія факты парушэнняў, што выяўлены праверкамі рэвізораў канцэрна, службы дзяржаўнага кантролю.

Асноўным накірункам цэнавай палітыкі застаецца пераход да свабодных цэн. Разам з тым кантроль за імі ўзмацняецца і з боку дзяржавы. Упарадкаванню цэнаўтварэння ў рэспубліцы паспрыяе і прыняцце Закона «Аб цэнаўтварэнні», які ўжо разгледжаны і прыняты ў першым чытанні Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

У цяперашні час у саставе нашага канцэрна 7 акцыянерных таварыстваў, 3 арэндныя прадпрыемствы. На працягу 1997 года акцыяніраваліся Барысаўскае вытворчае аб'яднанне музычных інструментаў і Мінская фабрыка люстэркаў. Вынікі работы прадпрыемстваў розных формаў уласнасці паказваюць, што найбольш эфектыўна працуюць у сённяшніх умовах дзяржаўныя і акцыяніраваныя прадпрыемствы. Так, напрыклад, балансавы прыбытак на аднаго працуючага ў цэлым па канцэрну склаў 16,6 мільёна рублёў, а па акцыянерных таварыствах — 24,2 мільёна. А вось па арэндных прадпрыемствах гэты паказчык роўны ўсяго толькі 11,7 мільёна рублёў.

Работа на арэндзе сябе, такім чынам, не апраўдвае. Таму канцэрнам прынята рашэнне не прадаўжаць прадпрыемствам дагаворы арэнды. Абарона інтарэсаў дзяржавы ў ААТ ажыццяўляецца праз прадстаўнікоў дзяржавы, прызначаных канцэрнам. У цяперашні час дадзена права ўвядзення «залатой акцыі» на ўдзел у кіраванні акцыянерным таварыствам. І гэта права трэба выкарыстаць як мага паўней.

Балючае пытанне сёння, як вядома, — заработная плата. У сярэднім за 1997 год яна склала 1 мільён 699,8 тысячы рублёў. Толькі ў снежні мы змаглі крыху павысіць яе — у сярэднім нашы працаўнікі атрымалі па 2 мільёны 317,4 тысячы. На жаль, сярод прамысловых прадпрыемстваў канцэрна назіраецца вельмі і вельмі вялікая розніца ў аплаце працы. Так, 40 працэнтаў прадпрыемстваў выплачваюць сваім працаўнікам заробак вышэй агульнагаліновага. І ў той жа час на васьмі прадпрыемствах сярэдняя зарплата роўная ўсяго толькі 50 працэнтам ад сярэдняй па рэспубліцы. Мы ведаем прычыну гэтага становішча: няпоўная загрузка вытворчасці, выпуск прадукцыі з нізкай працаёмкасцю. Так што кіраўнікам вытворчых падраздзяленняў канцэрна ёсць над чым падумаць і ў гэтай важнай справе. Тым больш, што ў маі-чэрвені плануецца пераход на пагадзінную тарыфную стаўку, і ўзровень заработнай платы будзе поўнасцю залежаць ад укладу кожнага працаўніка ў канчатковыя вынікі.

За мінулы год на прадпрыемствах канцэрна распрацавана і ўкаранёна ў вытворчасць звыш 700 новых відаў вырабаў, 120 адзінак новага тэхнічнага абсталявання і 70 новых прагрэсіўных тэхналагічных працэсаў. Затраты на рэалізацыю мерапрыемстваў тэхнічнага прагрэсу склалі звыш 30 мільярдаў рублёў, у тым ліку за кошт інавацыйнага фонду канцэрна — 4,1 мільярда. Атрыманы эканамічны эфект склаў звыш 11 мільярдаў рублёў. Абнаўляльнасць прадукцыі ў цэлым па «Белмясцпраму» склала 10,7 працэнта. Не ўдзяляе належнай увагі праблеме абнаўлення прадукцыі наша галоўная навуковая арганізацыя — НВП «Прагрэс». Яе работа летась прызнана нездавальняючай, і літаральна месяц назад мы вымушаны былі замяніць кіраўніцтва інстытута.

Зроблена нямала. Дзякуй кіраўнікам і калектывам за іх працу. Аднак, як бачна, хапае яшчэ і праблем, нявырашаных пытанняў. Ад ажыўлення вытворчасці ў мінулым годзе сёлета мы павінны перайсці да ўстойлівага росту. Кадры кіраўнікоў, спецыялістаў, радавых працаўнікоў у нас ёсць добрыя. І ім пад сілу любыя, нават самыя высокія, рубяжы.

**Запісаў Анатоль МЯСНІКОЎ.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



## Беларускі каларыт плюс светаадчуванне

**Дзесьці ў сёмым класе сярэдняй школы настаўнік малявання прапанаваў хлопчыку Алесю Сушу ехаць вучыцца на мастака ў Мінск.**

Пры гэтым дадаў: «Хай паглядзіць горад». І вось ужо колькі гадоў Алесь усё глядзіць горад так, што нават часам па вёсцы сумуе. Але сум гэты даволі творчы — можа ён час ад часу фарбамі аздабляе палатно. Можа, спалучыўшыся разам з працаздольнасцю мастака, ператвараецца ў звычайную захопленасць жыццём.

У грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы працуе міні-выстава Алеся Сушы, якая складаецца з 9 карцін. Гэтая маленькая сустрэча мастака з гледачом павінна папярэднічаць выставе, што адбудзецца вясной у Празе. А ўпершыню Алесь Суша з'явіўся перад аматарамі мастацтва ў 1989 годзе, дзе ў агульнай экспазіцыі была прадстаўлена яго карціна «Напаследак».

Зараз мастак настойліва шукае новых сустрэч з гледачамі, таму што яму ёсць што паказаць.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

● Сярэдняя **працягласць жыцця** ў рэспубліцы, паводле апошніх даных, у мужчын — 62 гады, у жанчын — 64; у сельскага насельніцтва гэты паказчык на 3 гады меншы, чым у гарадскога.

● Па патрабаваннях прафсаюзных арганізацый краіны летась 298 чалавек **адноўлены на працы.**

● Самай густанаселенай краінай у свеце да 2050 года стане Індыя: згодна з вынікамі даследаванняў, якія правялі амерыканскія вучоныя, **праз 50 гадоў насельніцтва Індыі** павялічыцца на трэць і складзе адзін мільярд пяцьсот трыццаць мільёнаў чалавек.

● За першы месяц гэтага года ў **Беларусі выяўлены** яшчэ 72 ВІЧ-інфіцыраваныя.

ПОГЛЯД

# Дзяржаўнай сістэме адукацыі «падрастае» перспектыўны канкурэнт?

**Усе даўно прызвычаіліся, што ў Беларусі вышэйшай адукацыі, якую можна атрымаць у дзяржаўных ВНУ, з'явілася альтэрнатыва. Праўда, казаць пра канкурэнцыю дзяржаўных і недзяржаўных навучальных устаноў заўчасна — далейшы лёс альтэрнатыўнай адукацыі пакуль дакладна не акрэслены.**

Прадстаўнікі Беларускай асацыяцыі работнікаў недзяржаўных навучальных устаноў адзначаюць, што іх сектар адукацыі ў насельніцтва пакуль карыстаецца меншым даверам і аўтарытэтам, чым агульнавядомыя, выпрабаваныя часам, ВНУ і тэхнікумы. Аднак у альтэрнатыўнай сістэмы адукацыі не было дастаткова часу, каб зарэкамендаваць сябе. Першыя, шматабяцальныя крокі некаторыя недзяржаўныя ўстановы ўжо зрабілі і маюць намер і далей сур'ёзна працаваць. Прэзідэнт асацыяцыі, рэктар Міжнароднага інстытута працоўных і сацыяльных адносінаў Валерый Тычына заявіў, што ён і яго паплечнікі ў пэўным сэнсе вітаюць новыя, больш жорсткія правілы ліцэнзавання і акрэдытацыі недзяржаўных навучальных устаноў. На яго думку, трэба ў заканадаўчым парадку ўстанавіць аб'ектыўныя крытэрыі, з дапамогай якіх можна было б вызначыць, «хто мае права на жыццё, а хто не». Напрыклад, асацыяцыя, у якую зараз уваходзяць толькі дзесяць альтэрнатыўных навучальных устаноў, вылучыла наступныя абавязковыя ўмовы членства: пастаяннае абнаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы, інфармацыйнае забеспячэнне навучальнага працэсу, набыццё вучэбных карпусоў ва ўласнасць ці ў доўгатэрміновую арэнду і г. д. І гэта павінна стаць нормай для ўсіх. Яшчэ адно актуальнае пытанне: статус дыплома, атрыманне якога гарантуе недзяржаўная навучальная ўстанова ў выпадку паспяховай здачы экзаменаў студэнтам. Гэты момант ці не галоўны для бацькоў і саміх абітурыентаў пры выбары таго ці іншага тэхнікума або інстытута. Дыплом павінен прызнавацца на тэрыторыі краіны, у якой выдадзены, інакш каму ён патрэбен? Недзяржаўныя навучальныя ўстановы справядліва ўздымаюць пытанне: чаму мы павінны атрымаць дзяржаўную ліцэнзію, акрэдытацыю, а выдаваць дыплом маем права не «дзяржаўнага», а «спецыяльнага» ўзору? У суседняй Расіі пытанне недзяржаўнага сектара адукацыі вырашылі даўно. Назва «недзяржаўная навучальная ўстанова» там наогул не ўжываецца. Тыя ВНУ і тэхнікумы, якія не фінансуюцца дзяржавай, проста не маюць слова «дзяржаўны» ў назве. Яны на роўных з дзяржаўнымі рыхтуюць спецыялістаў, выдаюць такія ж дыпломы.

Што датычыцца падаткаў, то недзяржаўныя навучальныя ўстановы льгот не пазбаўлены. Прадстаўнікі асацыяцыі хацелі б звярнуць увагу вось на які момант. Падатак на прыбытак стабільны і складае 30 працэнтаў. Аднак адна справа, калі гэты прыбытак кіраўніцтва паклала сабе ў кішэню, іншая — калі грошы пайшлі на тэхнічнае або інфармацыйнае забеспячэнне навучальнага працэсу.

Зайшла гутарка і пра скандал з эканоміка-лінгвістычным універсітэтам. Муж і жонка Кудасавы не змаглі вырашыць праблему акрэдытацыі, таму не сталі чакаць, пакуль іх аб'явяць банкрутамі, сабралі наяўныя грошы і ўцяклі. У Мінску іх нішто не трымала: уласных вучэбных карпусоў у ЭЛУ не было, нават кватэрай Кудасавы абзавесціся не паспелі. Гэтае здарэнне сектару альтэрнатыўнай адукацыі прэстыжу, скажам так, не дабавіла. На пытанне, ці можа падобнае паўтарыцца, Валерый Тычына адказаў, што ў іх асацыяцыі згуртаваліся людзі, якім можна давяраць, якія прыйшлі працаваць сур'ёзна, і не разлічваюць на лёгкія грошы. Збягаць ніхто не збіраецца, аднак поўнасцю выключаць магчымасць фінансавага краху нельга (як і любой камерцыйнай структуры). Каб не «пракалоцца» пры выбары недзяржаўнай навучальнай установы, прадстаўнікі асацыяцыі раяць блізка пазнаёміцца з самой установай, яе кіраўніцтвам, гісторыяй узнікнення і дзейнасці. Не лішне будзе звярнуць увагу на тое, ці ёсць у яе ўласныя вучэбныя карпусы (у тым ліку, якія будуюцца ці ўзяты ў доўгатэрміновую арэнду), ці добра абсталяваны аўдыторыі, ці дастаткова камп'ютэрнай тэхнікі, інфармацыйнага забеспячэння...

За нядоўгі час свайго існавання альтэрнатыўная сістэма адукацыі ўсё ж даказала права на жыццё. Калі ўлічыць тое, што недзяржаўныя навучальныя ўстановы ўжо сёння не просяць ніякіх ільгот і патуранняў, працуючы побач з такімі аўтарытэтамі, як БДУ, БДЭУ, БДПА, МДЛУ і іншымі, то няцяжка спрагназаваць — хутка «альтэрнатыўшчыкі» (пры ўмове станоўчага вырашэння юрыдычнай базы) складуць здаровую канкурэнцыю традыцыйнай дзяржаўнай сістэме адукацыі.

**Сяргей ПРОТАС.**

# «ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ» ШКОЛА





**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Адкрыццё гэтай школы ў вёсцы Сівіцы Валожынскага раёна — з'ява унікальная не толькі для свайго рэгіёна, але і ў маштабе ўсёй рэспублікі. Надта ж рэдка будуюцца ў наш час вясковыя школы, а тым больш калі будынак узводзіцца з «чарнобыльскага» фонду і разлічаны на дзяцей, якія трапілі ў чорны цень атрутнага забруджвання.

Такое забруджванне ў гэтых мясцінах Валожыншчыны выяўлена неўзабаве пасля аварыі на ЧАЭС, і вось ужо доўгія дзесяць гадоў мінула з пачатку гэтага будаўніцтва. Новая школа ў Сівіцах з цягам часу станавілася ўсё больш неабходнай. Справа ў тым, што па існуючых планах аздараўлення дзяцей, якія пражываюць на забруджанай тэрыторыі, гэтых самых дзяцей з лепшымі намерамі часта вывозілі ў блізкія ці далёкія мясціны: маўляў, трэба ж ім пажыць у чыстым асяроддзі, паесці чыстай ежы...

Толькі карысць ад такіх бясконцых паездак была даволі сумнiўная: дзеці шмат часу праводзілі далёка ад родных, не надта паспявалі ў вучобе.



Фотарэпартаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

З пераездам у новую прасторную школу многія з гэтых праблем знікнуць. У новым будынку і харчаванне наладжана тымі ж самымі чыстымі прадуктамі, і ўмовы для вучобы і адпачынку створаны. Чаго варты толькі гэты факт: новы корпус мае агульную плошчу амаль у дзесяць разоў большую за плошчу старой школы. Намаганнямі раённай улады і камітэта «Дзеці Чарнобыля» на базе школы неўзабаве пачне дзейнічаць аздараўленча-рэабілітацыйны цэнтр «Здароўе».

Вёска Сівіцы — цэнтральная сядзіба калгаса «Рассвет», таму з адкрыццём тут новай школы з'яўляюцца новыя надзеі на адраджэнне, далейшы рост гаспадаркі. «Чарнобыльская» школа становіцца сімвалам тых новых падыходаў да ліквідацыі слядоў бяды, калі разлік робіцца на мэтанакіраваную, прадуманую барацьбу, падмацаваную не толькі дзяржаўнымі праграмамі, але і самым галоўным — жаданнем людзей жыць і працаваць на зямлі сваіх бацькоў.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

***НА ЗДЫМКАХ: пад бібліятэку адвялі светлы прасторны пакой; новая школа ў Сівіцах; кухня школы абсталявана па-сучаснаму.***

«КРЫК ДУШЫ» ПАЧУЛІ

## Напісалі ў газету і... збеглі ад следства

У нумары «Звязды» за 9 студзеня г. г. пад рубрыкай «Крык душы» было апублікавана пісьмо Вольгі Карпенка «Мы жывём ізгоямі». Жанчына пісала, што, прыехаўшы з Украіны, яна з дзецьмі ніяк не можа прапісацца ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна.

Спачатку на публікацыю адрэагавалі ў Брэсцкай абласной пашпартна-візавай службе. Адтуль у рэдакцыю паведамілі, што *«грамадзянцы Карпенка В. Ю. пісьмова растлумачылі парадак афармлення дакументаў аб пакіданні на пастаяннае жыхарства ў Рэспубліцы Беларусь».*

Але сп. Карпенка пісьмовых тлумачэнняў з Брэста наўрад ці дачакалася. Бо яна з вёскі Пешкі ўжо... з'ехала.

Праз колькі дзён пасля першага прыйшоў другі адказ з Бярозаўскага райвыканкама, куды рэдакцыя паслала публікацыю на рэагаванне. У паперы, падпісанай намеснікам старшыні райвыканкама І. Юшкевічам, нам паведамілі наступнае: *«Карпенка В. Ю. разам з дзецьмі і сужыцелем Маскалюком пераехала ў в. Пешкі ў лістападзе 1997 года, наняўшы для пражывання прыватны дом. Да гэтага сям'я пражывала ў в. Аніскавічы Кобрынскага р-на, г. п. Антопаль Драгічынскага раёна, в. Цеўлі Кобрынскага раёна, затым зноў у в. Аніскавічы. Грамадзянства РБ яна не прымала.*

*Прыехаўшы ў Пешкі, Карпенка В. Ю. па пытанню прапіскі ніякіх захадаў не рабіла, нягледзячы на неаднаразовыя напаміны работнікаў сельсавета і ўчастковага. Яе малодшая дачка была залічана ў другі клас Боркаўскай СШ адразу пасля пераезду сям'і ў Пешкі.*

*Як высветлілася пазней, у Бярозаўскі раён сужыцель Карпенка і яна пераехалі, каб ухіліцца ад адказнасці за ўчыненыя ў Кобрынскім раёне крадзяжы. Супраць Маскалюка ўзбуджана крымінальная справа, ён арыштаваны і знаходзіцца ў Кобрынскім ГРАУС. Узбуджана крымінальная справа і супраць Карпенка В. Ю. З вёскі Пешкі яна з дзецьмі з'ехала.»*

Што тут дадаць? Здараюцца «праколы» і ў рэдакцыі. Нават калі жадаеш дапамагчы людзям і верыш ім на слова. Няхай сабе і дасланае ў канверце.

**Аддзел пісьмаў «Звязды».**

СЁННЯ

**МЕСЯЦ**
**Апошняя квадра 19 лютага**
***З 2.22 — 22-ія месяцавыя суткі. З 17.57 Месяц — у сузор'і Стральца.***

**ІМЯНІНЫ**
**Пр. Варсанофія, Іаана, Дарафеі, Хрысціны, Юліяна, Марфы і Марыі**
**К.Конрада Арнольда**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, месцамі невялікія ападкі. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 2—4, Мінску — 3—5, Гомелі — 4—6, Гродне — 5—7, Брэсце — 6—8 градусаў вышэй нуля.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, у паўночна-ўсходніх раёнах невялікія ападкі. Тэмпература ўначы — мінус 1—плюс 4, удзень — 4—9, па захаду да 12 градусаў цяпла.

ВІНШАВАННІ

*З нагоды дня нараджэння жадаюць здароўя, шчасця, радасці ў жыцці, поспехаў у працы і вучобе:*

*Надзеі Віктараўне МАМОНЬКА з г. Мінска — родныя з г. Стоўбцы; любаму сыну і брату Сяргею ПЯШЭВІЧУ — бацькі, сястра з в. Юркевічы Жыткавіцкага раёна; Наталлі Іванаўне ЗАКЕВІЧ з г. Смаргоні — бацькі, брат;* ***Таццяне Анатольеўне ТАРСУК*** *з г. Круглае — супрацоўнікі;* ***Рэгіне Браніславаўне ГРЭСЬ*** *з Гродна — Раіса Пятроўна Маскальчук;* ***Алене Васільеўне БАЖКОВАЙ*** *— Таццяна Васільеўна з в. Бёрда Клічаўскага раёна;* ***Ніне Ніканаўне КУПРЭВІЧ*** *з в. Вішнёўка Мінскага раёна — дзеці, унукі; любімай мамачцы* ***Леанідзе Мікалаеўне КУЧЫК*** *з нагоды 60-годдзя — сын Анатоль з сям'ёй, в. Душава.*

## Старонка Паўла Глобы

**20 лютага, ПЯТНІЦА**

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** Дзень цяжкі, звязаны са спакусай і правакацыямі. Можна пачынаць рабіць тыя справы, якія загадзя старанна прадуманы. Ва ўсім захоўвайце асцярожнасць, будзьце ўважлівыя. Не трэба весці сядзячы лад жыцця. Нельга рабіць нічога непрыстойнага, гневацца, сумаваць, аб'ядацца і п'янстваваць. Рэкамендуецца пакаянне і дараванне. Можна заняцца ўборкай і ачысткай дома, рамонтнымі і рэстаўрацыйнымі работамі. Не рабіце буйных пакупак. Гэта час посту і ўстрымання. Выключыце з меню мясную ежу. Добра прыняць гарачую ванну.

**АДЗЕННЕ.** Адзенне павінна быць толькі лёгкім, старайцеся не хутацца ў гэты дзень. Прытрымлівайцеся белых і жоўтых, залацістых тонаў. Пазбягайце цёмных колераў, асабліва карычневага.

**ПРЫМЕТЫ.** Парваць чаравікі — да зняцця абароны. Выпадкова апарыцца — знак ачышчэння. Калі нечакана перагарае лямпачка ці гасне святло — папярэджанне аб магчымых сурокам, хваробе ці разарэнні. Калі ў гэты дзень на целе паяўляюцца прышчы — папярэджанне аб вашых унутраных хваробах.

**СНЫ.** Спрыяльныя сны, звязаныя з раслінамі. Хворы, які ўбачыў кветкі (асабліва якія расцвітаюць), абавязкова ачуняе. Бачыць плады, рваць яблыкі — да багацця.

**МЕДЫЦЫНА.** Неспрыяльны час для аперацый. Слабыя палавыя органы, печань, жоўцевы пузыр і бёдры. Проціпаказаны донарскія працэдуры. Можна лячыць лёгкія і бронхі.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

**Сітуацыя вакол Ірака працягвае па-ранейшаму трымаць увесь свет у напружанасці. Два гіганты — Расія і ЗША вядуць няспынную і, без перабольшання, у многім вызначальную на далёкую перспектыву барацьбу за развіццё падзей менавіта па свайму сцэнарыю.**



Пагляд

# ІРАК — ЯБЛЫК СУСВЕТНАГА РАЗЛАДУ

ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ поўныя рашучасці (і, хутчэй за ўсё, здзейсняць свае ваяўнічыя намеры) пакараць ненавіснага ім Садама Хусейна, а па магчымасці ліквідаваць яго, узмацніць сваю ролю ў гэтым багатым нафтай рэгіёне, адвесці ад Ізраіля — вернага сябра і саюзніка, пагрозу хімічнай ці біялагічнай атакі з боку іракцаў, яшчэ раз прадэманстраваць велізарную моц амерыканскіх узброеных сіл. Карацей, удалая вайна дазволіць ЗША адным махам вырашыць комплекс складаных праблем.

Чаму тады яны марудзяць? Моцна замінае «жалезная» пазіцыя Расіі? Не думаю. Нездарма днямі прэзідэнт Біл Клінтан шматзначна і іранічна заўважыў, што «не» па-руску — гэта зусім не тое самае, што «не» па-англійску. І ў пацвярджэнне важкасці сваіх слоў накіраваў чарговую групу ваенных у зону мяркуемых баявых дзеянняў.

Расія ж упарта, часам занудна, гне сваю лінію на «мірнае вырашэнне» і, трэба сказаць, не без поспеху. Так, яна цяпер далёка не ў той палітычнай, эканамічнай і ваеннай вазе, як некалі былы СССР, але пакуль мае дастаткова магчымасцяў папсаваць нервы і кроў «дзядзьку Сэму». Сёння Расія даволі ўдала выкарыстоўвае тыя супярэчлівыя пачуцці, якія выклікалі ў сусветнай супольнасці агрэсіўныя прыгатаванні ЗША ў Персідскім заліве. Бязглузды ва ўсіх адносінах захоп некалькі гадоў таму маленькага, бездапаможнага ў ваенным плане Кувейта Іракам, шматлікія факты рабаўніцтва і насілля распутнай салдатні ў дачыненні да мірнага насельніцтва выклікалі хвалю абурэння ва ўсім цывілізаваным свеце. Гэта ў цэлым і дало зялёнае святло для бамбардзіровак і ракетных удараў па іракскіх аб'ектах. Тады Расія дыпламатычна прамаўчала (сказаць не было чаго) і дала згоду на міжнародныя санкцыі ці, інакш кажучы, блакаду Ірака.



Іракскія салдаты і дабраахвотнікі выступаюць у падтрымку Садама Хусейна. *Фота AFP.*

За мінулы час расійская пазіцыя крута змянілася. Масква адчувае, што вецер сёння дзьме ў яе ветразі, і імкнецца калі не ўзяць рэванш, то, ва ўсякім разе, адыграцца ў ЗША за сур'ёзныя дыпламатычныя паражэнні на еўрапейскім кантыненце, у першую чаргу за маючае адбыцца пашырэнне Еўрапейскага Саюза і НАТО за кошт былых краін сацыялістычнага лагера.

Не думаю, што ў Крамлі ў захапленні ад С. Хусейна і гатовыя ўсяляк падтрымліваць яго адыёзны таталітарны рэжым. У расійскім МЗС пра лёс дыктара гавораць як бы між іншым і гарой стаяць за выратаванне шматпакутнага іракскага народа, які, сапраўды, моцна нацярпеўся за гады санкцый. А цяпер яму зноў пагражаюць знішчальныя налёты амерыканскай авіяцыі і ракет. Гэта міжволі выклікае сімпатыю да Масквы.

Хай амерыканцы пужаюць свет, відаць, рэальнымі звесткамі аб тонах назапашанай С. Хусейнам у сакрэтных сховішчах зброі масавага знішчэння. Расія не адмаўляе гэтых даных. Яна таксама за ліквідацыю хусейнаўскіх арсеналаў, але спакваля і без гульні мускуламі. Пазіцыя і высакародная, і выйгрышная. Амерыканцы заяўляюць, што С. Хусейн разумее толькі мову сілы. Расіяне пераконваюць свет у тым, што з ім можна дамовіцца, яшчэ крышку дыпламатычных намаганняў — і ён згодзіцца на ўсеагульную інспекцыю.

У Маскве ўсё часцей прыгадваюць аб неабходнасці вытрымліваць неўмяшанне — адзін з галоўных прынцыпаў міжнароднага права і важнейшую ўмову мірнага суіснавання і супрацоўніцтва дзяржаў. У амерыканцаў у адказ знаходзяцца свае аргументы, спасылкі на дакументы ААН, у прыватнасці, на папярэднюю рэзалюцыю па Іраку, якая быццам бы дазваляе прымяніць зброю.

За гэтымі дыпламатычнымі баталіямі ўжо праглядваецца далейшае разыходжанне поглядаў і пазіцый Расіі і ЗША па глабальных праблемах. І зараз Крамлю вельмі важна не дапусціць развязвання вайны ў Персідскім заліве, што можа стаць самым буйным дыпламатычным поспехам расіян за апошнія гады. Дзеля дасягнення гэтай мэты мабілізаваны ўвесь міжнародны аўтарытэт і сувязі Масквы. Адсюль і ціск на генеральнага сакратара ААН Кофі Анана, які ў тэлефоннай размове спачатку быццам бы і паабяцаў Барысу Ельцыну асабіста заняцца справай урэгулявання, нават прыляцець у Багдад, але потым чамусьці адмовіўся. У гэтым «чамусьці» Масква ўбачыла дрэнны ўплыў Вашынгтона.

У амерыканцаў з Кофі Ананам (ён сваім выбраннем на пасаду генсека ў многім абавязаны ЗША і іх саюзнікам), скажам так, пакуль усё абышлося.

Хаця, па апошняй інфармацыі, са штаб-кватэры ААН у Нью-Йорку К. Анан у будучую пятніцу збіраецца наведаць Багдад. Куды больш складана размаўляць з Кітаем, Францыяй, Егіптам, іншымі ўплывовымі дзяржавамі, кожная з якіх вядзе сваю асобную партыю ў міжнародных справах і не хоча празмернага дамінавання ЗША ў рэгіёне Персідскага заліва. Многія краіны адкрыта і не выступаюць супраць амерыканцаў, але вельмі заклапочаныя наступствамі будучай агрэсіі. І гэта таксама маральная падтрымка намаганняў Расіі.

Ёй, на першы погляд, засталося да перамогі не так ужо і шмат — пераканаць С. Хусейна ў жыццёвай неабходнасці шырока супрацоўнічаць з ААНаўскімі экспертамі, пайсці на выкананне ўсіх іх патрабаванняў. Аднак С. Хусейн, як і іншыя дыктатары са стажам, асобы звычайна непрадказальныя, капрызныя, вераломныя. Ад яго варта чакаць непрыемных сюрпрызаў. Прычым і Маскве, і Вашынгтону.

Тым часам сітуацыя ў Персідскім заліве зайшла далёка. Пентагонаўскім генералам цяжка будзе адмовіцца ад спакусы выпрабаваць новыя віды зброі і яны прыкладуць усе намаганні, каб пераканаць Б. Клінтана ў правільнасці ваеннага рашэння. Ці зможа, а дакладней ці захоча, ААН спыніць агрэсію, мы ўбачым у бліжэйшыя дні. Мне здаецца, што сур'ёзна паўплываць на ваяўнічасць Пентагона могуць толькі самі амерыканцы, кангрэс. У Амерыцы яшчэ канчаткова не прайшоў в'етнамскі сіндром, і калі там насельніцтва ўбачыць верагоднасць значных страт жывой сілы, то Беламу дому прыйдзецца прыслухацца да іх пратэстаў.

Незалежна ад таго, пачнецца вайна ці не, на міжнароднай арэне надоўга захаваецца ўзнікшая ў выніку крызісу ў Персідскім заліве напружанасць паміж ЗША і Расіяй, працягнецца працэс паглыблення непаразуменняў і рознагалоссяў. Гэта не будзе адкрытае, як раней, ідэалагічнае, з гонкай узбраенняў процістаянне дзвюх супердзяржаў, а замаскіраваная дыпламатычнымі крокамі і захадамі барацьба за ўплыў у свеце. І ў кожнай з'явяцца свае прыхільнікі. Беларусі будзе вельмі цяжка вытрымаць нейтралітэт і яна, згодна са сваім саюзніцкім абавязкам, стане побач з Расіяй.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# БЫЦЬ ЖАНЧЫНАЙ НЯЛЁГКА...

**Агульныя сусветныя выдаткі, якія штогод накіроўваюцца на паляпшэнне аховы рэпрадуктыўнага здароўя, цяпер набліжаюцца да 17 млрд. долараў ЗША — менавіта такую суму ўвесь свет выдаткоўвае на ўзбраенне на працягу менш чым аднаго тыдня.**

Кожны год па прычынах, звязаных з цяжарнасцю, у свеце паміраюць 585.000 жанчын — па адной жанчыне кожную хвіліну. А на кожную загінуўшую жанчыну прыпадае сама меней 13 жанчын, якія сустракаюцца ў час цяжарнасці з пагрозай для свайго здароўя. Як сведчыць практыка, рызыка смяротнага зыходу цяжарнасці ў афрыканскіх жанчын у 500 разоў вышэй, чым у жанчын развітых краін свету.

Каля 200.000 жанчын паміраюць у свеце штогод у выніку адсутнасці ці недастатковай эфектыўнасці процізачаткавых сродкаў. У 14 краінах свету жанчына можа атрымаць кантрацэптывы толькі з адабрэння мужа. Яшчэ ў 60 краінах ёй неабходна атрымаць дазвол у мужа на прымяненне пастаянных метадаў кантрацэпцыі. У выніку гэтага пазбаўленымі абслугоўвання аказваюцца незамужнія жанчыны, уключаючы падлеткаў і ўдоў. 56 краін устанавілі мінімальны ўзрост для стэрылізацыі.

350 мільёнаў сямейных пар ва ўсім свеце не маюць інфармацыі аб процізачаткавых сродках або пазбаўленыя доступу да іх. Паводле ацэначных даных, 120—150 мільёнаў замужніх жанчын або ўвогуле не жадаюць мець больш дзяцей, або жадаюць адцягнуць нараджэнне дзіцяці сама меней на 2 гады, але не выкарыстоўваюць ніякіх метадаў планавання сям'і.

Прыкладна 75 млн. цяжарнасцяў у год (з агульнай колькасці 175 млн. цяжарнасцяў) з'яўляюцца непажаданымі і іх вынікам становіцца 45 млн. абортаў.

70.000 жанчын паміраюць у свеце штогод у выніку некваліфікаваных абортаў, і ніхто не ведае, колькі жанчын атрымліваюць ускладненні.

Сама меней 60 млн. дзяўчынак не нараджаюцца ў свеце з прычыны селектыўных абортаў, прадыктаваных жаданнямі бацькоў мець толькі хлопчыкаў. У шэрагу краін Усходняй Азіі на 100 нованароджаных дзяўчынак прыпадаюць 104—107 нованароджаных хлопчыкаў. У Кітаі і Рэспубліцы Карэя адзначаліся паказчыкі яшчэ больш высокія: на 100 дзяўчынак — 100 хлопчыкаў. Нізкі статус дзяўчынак у сям'і прыводзіць да таго, што ўзровень іх смяротнасці ў Паўднёвай Азіі на другім—пятым годзе жыцця перавышае ўзровень смяротнасці ў хлопчыкаў, што абумоўлена наступнымі абставінамі: хлопчыкаў лепш кормяць, ім хутчэй аказваецца медыцынская дапамога і да іх наогул больш прыхільныя адносіны.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# «САВЕЦКІЯ ДОБРАНАМЕРНЫЯ ФІЛЬМЫ ВЫБІВАЮЦЬ ГАЛІВУД З ЭКРАНА»

«Яны пафліртавалі з пышнымі галівудскімі пастаноўкамі, мексіканскімі «мыльнымі операмі» і індыйскімі музычнымі стужкамі. Але калі эйфарыя свабоды пайшла на спад, рускія зноў захацелі глядзець свае старыя фільмы.

Тое, што было немагчыма ўсяго два гады таму, сёння стала рэальнасцю: расійскія дзяржаўныя і прыватныя тэлеканалы навадняюць эфір фільмамі камуністычнай эпохі, некаторыя з якіх датаваны 1920-мі гадамі. Гэтыя стужкі паказваюць у лепшы тэлевізійны час, і яны маюць рэкордныя рэйтынгі.

«Расіяне насыціліся амерыканскімі фільмамі і стаміліся ад іх, — гаворыць Сяргей Фікс, які закупляе фільмы для НТБ — самага пасляховага камерцыйнага тэлеканала. — Расійскі глядач адвёў душу сцэнамі таннага насілля і сексу, якія ён паглядзеў сотні разоў і якія страцілі нарэшце навізну».

Раптоўнае з'ўленне любові да старой кінапрадукцыі прывяло да тыповай посткамуністычнай гандлёвай барацьбы. Хваля настальгіі выклікала вайну паміж тэлекампаніямі за набыццё правоў больш чым на 1000 савецкіх фільмаў, што пыліліся ў архівах «Масфільма».

Калекцыя савецкіх фільмаў уяўляецца прадпрымальнікам патэнцыяльным месцанараджэннем золата. Эпічныя драмы накшталт «Івана Грознага» Сяргея Эйзенштэйна і «Вайны і міра» Сяргея Бандарчука прынясуць тэлекампаніям мільёны долараў прыбытку ад рэкламы. Шэсць хвілін рэкламнага часу ў прайм-тайм, калі дэманструюцца савецкія фільмы, могуць прынесці больш за 180 тыс. долараў.

Гэтыя фільмы вяртаюць памяць гледачоў да дзён, калі ва ўсіх была работа і ўсе атрымлівалі зарплату своечасова. Не тое каб жыццё пры камунізме было дасканалым. Аднак такім яно звычайна паказвалася ў фільмах.

Старыя фільмы напамінаюць аб высакародных пачуццях, якіх не хапае ў сённяшнім грамадстве спажывання. Задачай рэжысёраў было натхняць на яшчэ большы прагрэс у будаўніцтве сацыялізму. «Белае сонца пустыні» (1969 год) — гераічная эпапея, якая так спадабалася членам палітбюро, што яна стала абавязковай для прагляду касманаўтамі перад палётамі.

Паводле слоў вядучага кінакрытыка Данііла Дандурэя, «расіяне ўсё больш жывуць мінулым. Сучаснасць вельмі суровая, і яны страцілі пачуццё будучыні. Яны звяртаюцца да станоўчых герояў савецкіх фільмаў».

**«Таймс»** *(Вялікабрытанія).*

# «ШЭРАН СТОЎН УЗЯЛА ШЛЮБ У ДЗЕНЬ СВ. ВАЛЯНЦІНА»

*«Актрыса Шэран Стоўн узяла шлюб з газетным выдаўцом з Сан-Францыска Філам Бронстэйнам у ходзе свята ў час прыёму з нагоды дня св. Валянціна ў яе доме ў Беверлі-Хілз. Прадстаўнікі актрысы адмаўляюцца пацвердзіць, што 39-гадовая «зорка» фільма «Асноўны інстынкт» знаходзіцца на 7 тыдні цяжарнасці.*

*На цырымоніі прысутнічала каля 40 запрошаных.*

**«Дэйлі тэлеграф»** *(Вялікабрытанія).*



## Пеленг-навіны

**ІРАК ЯШЧЭ РАЗ ПЕРАСЦЯРОГ СУСЕДНІЯ ДЗЯРЖАВЫ**

Ірак «не зразумее» Кувейт, калі той прадаставіць свае тэрыторыі для нанясення ўдару па Багдаду. Падчас выступлення ў панядзелак у ліванскай сталіцы міністр замежных спраў Ірака заявіў, што Багдад не пагражае Кувейту, аднак спадзяецца, што кувейцкае кіраўніцтва не зробіць смяротнай памылкі. Пры гэтым кіраўнік знешнепалітычнага ведамства падкрэсліў, што тыя, хто прадаставіць тэрыторыю для нанясення ўдару па іракскіх жанчынах і дзецях, будуць несці адказнасць за ўчыненае амерыканцамі злачынства. Каменціруючы гэту заяву, міністр інфармацыі Кувейта падкрэсліў, што пагрозы з боку Багдада лішні раз дэманструюць сапраўдныя намеры Ірака ў дачыненні да Кувейта. «Багдад сам уяўляе пагрозу для рэгіёна. Мы нясём адказнасць за забеспячэнне бяспекі Кувейта і маем права супрацоўнічаць з любымі дружалюбнымі краінамі», — адзначыў кувейцкі міністр.

**ПЕРШЫМІ «ІМІГРАНТАМІ» АМЕРЫКІ БЫЛІ АЗІЯТЫ?**

Амерыканскія вучоныя прыйшлі да высновы, што першымі перасяленцамі на амерыканскі кантынент былі азіяты. Яны перабраліся на Аляску з Азіі больш як 30 тысяч гадоў таму, што прыкладна на 20 тысяч гадоў раней, чым было прынята лічыць. Навукоўцы амаль аднадушна лічаць, што археалагічныя знаходкі на поўдні Чылі ўказваюць на самыя старажытныя сляды пасялення чалавека на амерыканскім кантыненце — больш за 12 тысяч гадоў. Аднак яны гавораць, што да гэтага людзі ўжо тысячы гадоў жылі ў Паўночнай Амерыцы, перш чым эмігрыраваць у Паўднёвую.

**У ГРУЗІІ ЗАТРЫМАНЫ ЯШЧЭ ДВА ТЭРАРЫСТЫ**

Яшчэ два чалавекі затрыманы па падазрэнню ва ўдзеле ў замаху на жыццё прэзідэнта Грузіі Шэварднадзе. Як заявілі грузінскія ўлады, абодва падазраваемыя — прыхільнікі былога прэзідэнта краіны Гамсахурдыі. Паводле даных Генеральнай пракуратуры Грузіі, адзін з затрыманых сваяк Лоце Кабаліяс, які ў свой час узначальваў ваенізаваную групоўку прыхільнікаў Гамсахурдыі і быў асуджаны на пажыццёвае зняволенне.

## Інфарм-кактэйль

У аўстралійскім горадзе Перт пачаўся судовы працэс над Джавані Пачына. Яму прад'яўлена абвінавачанне ў забойстве па неасцярожнасці. Неасцярожнасць была ў тым, што ён пакінуў без нагляду сваіх чатырох ратвейлераў, і сабакі накінуліся на суседку, 85-гадовую Перыну Чаколіч, якая працавала ў сваім садзе. Па заключэнню медыцынскай экспертызы, жанчына памерла менавіта ад укусаў, колькасць якіх перавышала 80. Гэты выпадак адбыўся каля трох гадоў таму. Ратвейлеры па рашэнню ўладаў былі тады ж забітыя, а да суда над гаспадаром справа дайшла толькі зараз.

**Рэйтэр.**

*Амерыканскі «лятаючы аўтагоншчык» Браян Корсан, выступаючы са сваім эфектным нумарам у Лас-Вегасе, устанавіў сусветны рэкорд у любімым ім відзе спорту. У спецыяльна сканструяваным седане Корсан, які разагнаўся да скорасці 150 км у гадзіну, пераскочыў адлегласць у 94 метры і перавысіў прыналежнае яму ж сусветнае дасягненне ў палётах на аўтамабілі, якое складала 89,5 метра.*

***Асашыэйтэд Прэс.***

Згодна з даследаваннем амерыканскіх спецыялістаў, першынство па хуткасці размовы трымаюць французы — у сярэднім яны выпальваюць 350 слоў у хвіліну. Другое месца — 310 слоў — у японцаў, трэцяе — 250 слоў — за немцамі. Марудней за ўсіх размаўляюць жыхары Палінезіі і Малайзіі — 50 слоў у хвіліну. Цікава, што англічане і амерыканцы, якія размаўляюць на адной мове, выкарыстоўваюць яе з рознай хуткасцю: англічанін гаворыць у хвіліну ў сярэднім 220 слоў, а амерыканец — 150—170.

**«Труд».**

**Кафедра сучаснай беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта выказвае глыбокае спачуванне загадчыцы кафедры Сямешка Лідзіі Іванаўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю БАЦЬКІ.**

Як ужо паведамляла наша газета, за 1997 год колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася на 33 тысячы чалавек, прычым перавышэнне колькасці памёршых над колькасцю нованароджаных дасягнула 47 тысяч. Сумарны каэфіцыент нараджальнасці ў цэлым па краіне не перавышае 1,3 — у той час як для простага ўзнаўлення насельніцтва гэты паказчык павінен дасягаць 2,15.

Што з намі здарылася!
Паціху выміраем!..

Адказ на гэта пытанне павінны шукаць не толькі сацыёлагі, псіхолагі, філосафы, не толькі медыкі, не толькі бацькі і дзеці, мужчыны і жанчыны, але і палітыкі, эканамісты, дзяржаўныя служачыя, журналісты.

Перш за ўсё мы вырашылі звярнуцца да ўрачоў — і накіраваліся ў 5-ю клінічную бальніцу беларускай сталіцы. У размове бяруць удзел намеснік галоўнага ўрача па акушэрству і гінекалогіі 5-й клінічнай бальніцы Валянціна БЛІЗНЮК, загадчыца аддзялення кансерватыўнай гінекалогіі Кацярына СЯРКО, урачы-ардынатары Элеанора ФЯДОТАВА, Ісам ХАШЭМ і Анжаліка ТАНІНА.

РЭШТА

*36,6°. Круглы стол «Звязды»*

# З КОЖНЫМ ГОДАМ НАС СТАНОВІЦЦА ЎСЁ МЕНШ...

## АЛЕ... ЦІ ВАРТА ШКОЛЬНІКАЎ ВУЧЫЦЬ НАДЗЯВАЦЬ ПРЭЗЕРВАТЫВЫ?

**Кар.** *Дэмаграфічная сітуацыя ў краіне абвастраецца з кожным годам. Чым можна растлумачыць вытокі, прычыны гэтай небяспечнай для грамадства з'явы?*

**В. Блізнюк.** Я працую ўжо чвэрць стагоддзя, таму зусім кампетэнтна магу сказаць: калісьці за суткі нараджалася па 20—25 немаўлят, а зараз і ніводнага можа не быць... Адночы наш практыкант сказаў: цяпер жанчына, якая нараджае, — здзяйсняе сапраўдны подзвіг. Сацыяльная незабяспечанасць: маладыя сем'і кватэры часцей за ўсё не маюць, добрай зарплаты — таксама. Калі прааналізаваць гісторыі родаў, 90 працэнтаў жанчын не працуюць наогул альбо з'яўляюцца прадпрымальнікамі — ездзяць за мяжу «чалнакамі», гандлююць на рынку. Немалаважны фактар — разбэшчанасць маладых людзей. Каля 80 працэнтаў жанчын, якія паступаюць да нас, — кураць, ужываюць спіртныя напоі. Каля 40 першародзячых жанчын маюць паўторную цяжарнасць, дагэтага быў «вакуум» ці аборт. Ранняе палавое жыццё (з 14—15 гадоў), і як вынік, — перарыванне «выпадковай» цяжарнасці непаўнагадовым па сацыяльна-медыцынскіх паказчыках.

**Кар.** *У рэдакцыю патэлефанавала абураная жанчына: 13-гадовых падлеткаў настаўніца, згодна з праграмай, павяла ў сексалагічны цэнтр, дзе навучалі... ледзь не тэхніцы сексу. Пасля такога «культпаходу» крамольныя думкі з'явіліся нават у самых сціплых: захацелася паспрабаваць...*

**В. Б.** У тэлепраграме для падлеткаў «Да 16-ці і старэйшым» таксама вучаць прэзерватывы надзяваць... Ранняе палавое жыццё цягне за сабой запаленчыя працэсы, венерычныя захворванні, бясплоднасць. А па праграме мы павінны ледзь не з дзіцячага садка вучыць карыстацца і прэзерватывамі, і процізачаткавымі сродкамі — каб дзяўчынкі не цяжарылі, пачынаючы раннее палавое жыццё.

**К. Сярко.** Так, гэта сітуацыя ненармальная, аднак іншага выйсця няма: «из двух зол выбирают меньшее». Сярод школьнікаў неабходна праводзіць прапаганду карыстання кантрацэптывамі, каб пазбегнуць непажаданых наступстваў.

**В. Б.** Цяжка не згадзіцца. Нездарма ёсць рэклама «Выбіраю бяспечны секс!» СНІД паншыраецца, трэба абараняць сябе. Ужо ёсць выпадкі, калі нараджаюць дзяцей віч-інфіцыраваныя жанчыны... Як не прыкра пра гэта гаварыць, але сіфіліс і ганарэя зараз наогул не лічацца хваробамі!..

**Кар.** *Тым не менш названыя «не-хваробы» аказваюць на патомства сур'ёзны ўплыў? Дзеткі нараджаюцца здаровымі?*

**В. Б.** Нярэдкая сітуацыя: цяжарная жанчына мае венерычнае захворванне. Калі яна зацяжарыла, напрыклад, пасля выздараўлення ад сіфілісу, у такім выпадку праводзіцца тры курсы прафілактычнага лячэння — каб дзіця нарадзілася здаровым. А калі хвароба выяўлена ў час цяжарнасці, якую позна перарываць... наступствы могуць быць сур'ёзныя. Ёсць выпадкі прыроджанага сіфілісу ў немаўлят — гэта ўжо невылечна.

**Кар.** *У апошні час прыкметна абвастрыліся і гінекалагічныя хваробы. З чым гэта звязана?*

**К. С.** Сапраўды, вельмі шмат жанчын звяртаецца да нас з гінекалагічнымі праблемамі. Па традыцыі наракаюць на Чарнобыльскую катастрофу. Безумоўна, яна таксама адыграла сваю заганную ролю, і ўсё ж небяспечным можна назваць цэлы комплекс фактараў: няякаснае харчаванне, сацыяльныя праблемы, стрэсы... Вось нядаўна медсястра расказала: адна выхоўвае 12-гадовую дачку, зарплаты на месяц не хапае. Дачцэ не можа купіць не тое што садавіну, гародніну, сокі — нават малака. А колькі сем'яў трапілі ў аналагічную сітуацыю. Сацыяльная неўладкаванасць цягне за сабой стрэсы, дрэннае харчаванне — усё, як бачым, узаемазвязана.

**В. Б.** У сувязі з гэтым узнікла праблема гіпатрафіі плоду — дзеці адстаюць у развіцці, не набіраюць (як належыць) вагу. Раней, наадварот, была барацьба з дзецьмі вялікай вагі (каб пазбегнуць складанасцей пры родах, траўм).

**Кар.** *Як гучыць: барацьба з дзецьмі вялікай вагі...*

**В. Б.** Гэта раней усім жаночым кансультацыям гаварылі: не займаецеся прафілактыкай буйнавагавых дзяцей. А зараз дакараем: не займаецеся выяўленнем гіпатрафіі!.. Малавагавых дзяцей стала больш, і звязана гэта перш за ўсё з тым, што будучыя маці дрэнна харчуюцца.

**Кар.** *Ці падтрымліваеце вы сувязі з замежнымі калегамі?*

**К. С.** Зараз мы сталі больш адасобленымі, менш літаратуры паступае з Расіі. Аднак на базе нашага аддзялення працуе кафедра акушэрства і гінекалогіі Мінскага медінстытута, яе супрацоўнікі знаёмяць з усімі навінкамі, а з навуковых семінараў, канферэнцый прывозяць літаратуру, зборнікі дакладаў і тэзісаў, метадычныя даламожнікі.

**В. Б.** Камітэт па ахове здароўя Мінгарвыканкама рэгулярна арганізуе семінары, на якія пасылаем урачоў. Вучымся. Прынамсі, лячэнне ў нас не горшае, чым у якой-небудзь іншай краіне. А можа нават і лепшае. Урачы, якія ездзяць на стажыроўкі за мяжу, расказваюць: для замежных калег было б праблематычна без апаратуры, якія сталі для нас будзёнымі (тым больш такімі інструментамі!).

**І. Хашэм.** І я магу пацвердзіць гэта — на сваім уласным вопыце. Родам я з Ліваіна. У 1984 годзе скончыў Мінскі медінстытут, паступіў у ардынатуру, якую праходзіў на базе 5-й бальніцы. Потым паехаў на радзіму, працаваў там 5 гадоў. Шчыра кажучы, у Ліван ехаў са страхам: тут усе дапамагаюць, падказваюць, а там даўвядзецца працаваць аднаму... Але ў Беларусі я атрымаў цудоўную падрыхтоўку. Сам арганізаваў радзільны дом (накшталт нашых, беларускіх), дагэтага нічога падобнага там не было... Я сустракаўся з выпускнікамі медыцынскіх ВНУ з Балгарыі, Чэхаславакіі, Францыі, Германіі. Яны ні ў чым не былі лепшымі за мяне — наадварот, там я быў лідэрам. У складаных выпадках менавіта мяне клікалі на дапамогу. Адзінае, у чым замежныя медыкі пераўзыходзяць нашых, — знаёмства з апаратурай. У кожнага ўрача на стале — УЗІ... Жанчын ніхто не аглядае рукамі, толькі праз апаратуру. Але ж тэхніка не заўсёды выдае абсалютна дакладную інфармацыю, некаторыя тонкасці стану арганізму яна не паказвае.

**К. С.** Сапраўды, любая машына можа памыліцца. У доктара павінны быць добрыя рукі, разумная галава. Апаратура — дапаможны элемент (не ўрач пры апаратуры, а наадварот!) Хаця ўсё новае, безумоўна, неабходна ўкараняць у практыку.

**Кар.** *Наколькі ваша клініка ўкамплектаваная новай тэхнікай?*

**Э. Фядотава.** Няблага ўкамплектаваная: гістэраскопы дыягнастычны і аперацыйны, лапараскоп, кольпаскапія, радыёізатопная дыягностыка, іглатэрапія, баратэрапія, святлолячэнне... Сярэдні медперсанал таксама высокакваліфікаваны. Напрыклад, працоўны стаж медсястры Ганны Пятроўны Кавалёвай складае 37 гадоў. Руплівыя, сумленныя людзі імкнуцца як мага больш зрабіць для хворых.

**Кар.** *А як наконт медыкаментаў?*

**В. Б.** Што датычыць акушэрства і гінекалогіі — для цяжкахворай жанчыны здабудуць усё, што неабходна. Нават калі ў клініцы няма грошай, мы звяртаемся ў Камітэт па ахове здароўя гарвыканкама — і тэрмінова, для канкрэтнай хворай, выдзяляюцца сродкі. І так не толькі ў нашай бальніцы — палітыка дзяржавы скіравана на ахову мацярынства і дзяцінства.

**Кар.** *Вельмі ўстойлівыя размовы: кладзешся ў бальніцу — трэба мець пры сабе і адназаразовыя шпрыцы, і лякарствы...*

**В. Б.** У пачатку 90-х, калі толькі развалiўся Савецкі Саюз, было складана з медыкаментамі. А зараз — без праблем усё выпісваем. Мы не хвалімся, так ёсць на самой справе!.. Але некаторым дактарам трэба мець хоць нейкае сумленне: ці варта пацыентам прызначаць дарагія медыкаменты, калі можна замяніць іх дзешавейшымі... Дарэчы, раней многія наракалі на дрэннае харчаванне ў бальніцах: маўляў, з-за гэтага хворыя не хочуць класціся ў стацыянар. Зараз, наадварот, людзі не хочуць выпісвацца. А калі мы прапануем перайсці на дзённы стацыянар (хворы праходзіць лячэнне, працэдуры, але ён здымаецца з харчавання — у мэтах эканоміі сродкаў), дык стольні абурэння: маўляў, не трэба здымаць мяне з харчавання, я недалёка жыву, магу тры разы прыйсці пад'есці.

**Кар.** *Што можна параіць дзяўчынкам, дзяўчатам, жанчынам — каб менш праблем было і ў іх саміх, і ў грамадства ў цэлым?*

**К. С.** Весці здаровы лад жыцця: не мяняць сексуальных партнёраў, не піць, не курыць, не ўжываць наркотыкі.

**А. Таніна.** Дзяўчаты кураць па-страшнаму! Ляжыць у перадродавай палаце: «Што вы мне капельніцу ставіце, лепш адпусціце схадзіць у туалет курнуць!» Жанчына ў цяжкім стане, капаем ёй кроў, а яна хоча «курнуць». Узровень!..

**Кар.** *Шмат размоў пра нізкую заработную плату медработнікаў. У якасці панацэі гучаць прапановы аб увядзенні платнага медыцынскага абслугоўвання. Як вы, урачы, адносіцеся да гэтага?*

**В. Б.** Крыўдна чытаць у газетах: сярэдняя зарплата медработнікаў... і напішуць такую лічбу, што дзіву даешся! А ўсё вельмі проста: у сярэднюю заработную плату нам лічаць усе падпрацоўкі — дзяжурствы, работу ў выхадныя і святочныя дні, г. зн. сумяшчальніцтва. А калі сядзець на «голай» стаўцы, ні медсястра, ні акушэрка, ні ўрач не пражывуць... І ўсё ж пераводзіць медыцыну на платную аснову ні ў якім выпадку нельга.

**К. С.** Наша насельніцтва платную медыцыну «не пацягне»: усё каштуе вельмі дорага.

**Гутарку вяла Наталля ЛАГУНОЎСКАЯ.**

### Усмешка мастака



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

*Post Factum*

### Гэты дзень у гісторыі

● **У канцы зімы 1066 года** полацкі князь Усяслаў Брачыславіч захапіў Ноўгарад, вывез з Сафійскага сабора званы. За сваю рашучасць, розум, энергію князь Усяслаў быў празваны Чарадзеем, ён адзін з герояў «Слова аб палку Ігаравым». Актыўна дзейнічаў у княстве і за яго межамі. Нейкі час быў кіеўскім вялікім князем. У Полацку пабудаваў Сафійскі сабор — сімвал магутнасці і незалежнасці.

● **19 лютага 1473 года** нарадзіўся Мікалай Капернік, славуты польскі астраном, аўтар геліяцэнтрычнай тэорыі Сусвету, сутнасць якой заключаецца ў тым, што не Сонца верціцца вакол Зямлі, а, наадварот, Зямля і іншыя планеты — вакол Сонца.

● **90 гадоў таму — 19 лютага 1908 года** нарадзіўся вядомы беларускі паэт Станіслаў Пятровіч Шушкевіч.

● **19 лютага 1918 года** ў Мінску выканаўчым камітэтам разагнанага бальшавікамі Усебеларускага з'езда створаны Народны сакратарыят Беларусі — часовы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. У яго ўваходзілі Я. Варонка (старшыня), К. Езавітаў, П. Крэчаўскі, А. Смоліч і інш. У кастрычніку сакратарыят перайменаваны ў Раду міністраў БНР, старшынёй якой стаў А. Луцкевіч.

● **У гэты дзень у 1937 годзе** надзвычайны 12-ты Усебеларускі з'езд Саветаў зацвердзіў новую Канстытуцыю БССР, якая дзейнічала да 1978 года.

● **19 лютага 1940 года** нарадзіўся Сапармурат Ніязаў — Туркменбашы, прэзідэнт, прэм'ер-міністр, старшыня Савета старэйшын і Вярхоўны галоўнакамандуючы Туркменіі.

### Неверагодна

***Служачая аднаго з паштовых аддзяленняў Вашынгтона 23-гадовая Лінда Хекфард з лёгкасцю разбірае самы складаны, нехайны і заблытаны почырк. Таму да яе паслуг звяртаюцца кожны раз, калі ўзнікаюць сумненні ў правільнасці напісання адраса ці прозвішча на канверце.***

— Варта толькі мне зірнуць на пісьмо, як мяркуемы тэкст з'яўляецца перад маімі вачыма, быццам надрукаваны на машынцы, — кажа Лінда. У дзяцінстве я часта сядзела на каленях у бацькі, калі той працаваў з камп'ютэрам, і, магчыма, менавіта гэтая акалічнасць дала штуршок развіццю такой незвычайнай здольнасці.

— Мозг чалавека ад зносінаў з камп'ютэрам можа набыць не ўласцівыя яму раней якасці, — лічыць доктар Пітэр Маклаўскі, — толькі так я магу растлумачыць феномен Лінды Хекфард.

Час ад часу дзяўчыну запрашаюць нават у бібліятэку Кангрэса ЗША. Яна дапамагае расшыфроўваць няясныя мясціны ў старажытных манускрыптах, напісаных ад рукі, калі проста лупы ў руках спецыялістаў недастаткова.

### І так бывае

***Вядомы нямецкі кінаакцёр Эрнест Ханавальд, вядомы ў сябе на радзіме як выканаўца роляў рабаўнікоў у розных баевіках, нядаўна трапіў у рукі паліцыі за самае сапраўднае злачынства: 39-гадовы Эрнст напалохаў пісталетам касіра банка і ў выніку ўзяў наяўнымі 25 тысяч марак.***

На дзіва гора-рабаўніка, праз гадзіну яго арыштавалі прама ў кватэры. Высветлілася, што сведкі нападу добра запомнілі прыметы злачынцы і нават змаглі прасачыць за ім. Усё адбылося, як у сцэнарыі крымінальных серыялаў, у якіх здымаўся гер Ханавальд. Тое, што адбылося, акцёр тлумачыць так:

— Апошнім часам я трапіў у цяжкі крызіс. У мяне зусім няма грошай. Каб выжыць, я быў вымушаны пайсці красці.

Кажуць, што віной безграшоўя Ханавальда з'яўляецца яго празмерная слабасць да гульні ў карты. У турэмнай камеры ён пазбавіцца ад гэтай згубнай прывычкі.

### Дзесьці на белым свеце

***Футбольны матч у англійскім горадзе Брыстал з удзелам мясцовай каманды быў нечакана спынены: на поле выбегла маладая жанчына, якая накінулася на аднаго з футбалістаў і пачала драпаць яму твар кіпцюрамі. Бойка была спынена немалымі намаганнямі партнёраў па камандзе пацярпелага і суддзяў.***

Як высветлілася, агрэсіўная дама была блізкай сяброўкай аднаго з футбалістаў, на захоўванне якой ён пакінуў перад матчам куртку. Пакутуючы ад суму, яна пачала корпацца ў кішэнях курткі і знайшла там любоўнае пісьмо ад іншай жанчыны, што і прадвызначыла далейшы ход падзей.

### Цікава

***Адзін злодзей-дамушнік у Набярэжных Чаўнах, які пад выглядам інспектара гаргаза трапіў у кватэру, не чакаў, што небяспека можа падпільноўваць яго на шафе.***

Ізаляваўшы гаспадара кватэры ў ваннӑй, ён ужо ўзяўся пакаваць нарабаваныя рэчы, як зверху яму на галаву скочыла сіямская кошка.

Учапіўшыся мёртвай хваткай у твар незнаёмца, яна пачала так раз'юшана драпаць яму твар і кусацца, што рабаўнік кінуўся наўцёкі, забыўшы на месцы злачынства чорны пісталет, які аказаўся драўляным мулякам. Па пісягах на твары, пакінутых вусатай ахоўніцай, злачынца і быў неўзабаве затрыманы.

### Анекдот

*Жонка:*
*— Мне здаецца, што наша дачка розум і кемлівасць узяла ў спадчыну ад мяне.*
*Муж:*
*— Я таксама так думаю: мае розум і кемлівасць яшчэ пры мне!*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС:* 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».
*ТЭЛЕФОНЫ:* прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.
*ФАКС:* 68-27-79. *E-mail:* daily@zwyazda.belpak.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком, носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 906.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12